20 сакавіка 2015 | № 11 (428)

# Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

Дзядзька Рыгор. Дзённік выбраных сустрэч

стар. 14

ISSN 2218-2144

**5 З ДЫПЛАМАТАЎ — У МАРКЕТОЛАГІ**



Прадаць прадукцыю праблемных прадпрыемстваў — ці не галоўная задача, якая ставіцца перад айчыннай дыпламатыяй і ператварае беларускіх дыпламатаў у маркетолагаў

**6 ПРЫЧЫНЫ БЫЦЬ РАЗАМ**

Вера і будучыня Бацькаўшчыны — вось што нас зnітуе, дапаможа вызначыцца з палітычным строем і агульнымі базавымі каштоўнасцямі

**13 ІНТРЫГІ ДОМА ЛЕ ПЭН**



Марын Ле Пэн рыхтуецца да рашучай бітвы за прэзідэнцтва ў Францыі. А тым часам у яе з'явілася сур'ёзная канкурэнтка — пляменніца Марыён

**15 ДРУЦКІЯ-ЛЮБЕЦКІЯ: ЖЫЦЦЁ І СМЕРЦЬ НА МЯЖЫ ЦЫВІЛІЗАЦЫЙ**

Мяжа, якая прайшла па Беларусі 18 сакавіка 1921 года, падзяліла лёсы мільёнаў людзей. Некаторым з іх яна прынесла не толькі пакуты, але і смерць. Напрыклад, 20-гадовай Крысціне Друцкай-Любецкай

# Прадпрымальніцкае дэжа-вю

## Было зразумела — прадпрымальнікі пачуюць не тое, што хочуць



Сяргей ПУЛЬША

Праблемаў у ІП вельмі багата. Гэта і сертыфікаты на прадукцыю, і суправаджаючыя дакументы на тавар, якіх не выдаюць ані на адным рынку краін Мытнага саюза, і забарона наймаць працоўных больш чым тры чалавекі, і гэтак далей. Адказныя чыноўнікі гадамі не заўважаюць гэтыя праблемы. Была спадзяванка выключна на кіраўніка дзяржавы.

Усур'ёз разлічваць на таго, хто марыў калісьці «паціснуць руку апошняму прадпрымальніку», не выпадае. Але прадпрымальнікі хацелі атрымаць ад Аляксандра Рыгоравіча хаця б надзею на тое, што ім дадуць працаваць. Ці атрымалася?

Лукашэнка абвінаваціў ІП у тым, што ў «няроўных умовах» з прадпрымальнікамі апынулася ўся лёгкая прамысловасць Беларусі. Прадукцыя, якую выробляе цэлая галіна, аказваецца неканкурэнтаздольнай у параўнанні з таварамі, якія прывозяць ІП.

Гэта праблема прадпрымальнікаў ці лёгкай прамысловасці? Галіна атрымлівае шалёныя датацыі, мае прыярытэтны доступ да крамаў і складоў, але не ў стане канкураваць з замежнымі аналагамі, якія ўвозяцца ў краіну ІП. Страшна падумаць, што было, калі б прадпрымальнікі і лёгкая прамысловасць апынуліся б у сапраўды роўных умовах. Каб ІП атрымалі такія ж датацыі, такі ж доступ да крамаў, такую ж арэндную плату... Лёгкая прамысловасць сканала б не проста хутка, а імгненна.

Лукашэнка панаракаў, што прадпрымальнікі вязуць свой тавар з-за мяжы. А што ім рабіць, як не везці тавар з-за мяжы? Альтэрнатывы ж няма.

Аляксандр Рыгоравіч параіў закупацца на беларускіх аптовых базах, але сам адразу ж вызнаў, што там «дарагі і бедны асартымент». Кіраўнік краіны адразу ж запатрабаваў стварыць на гэтых базах асартымент не горш, чым на маскоўскіх рынках.

«Лукашэнка, звяртаючыся да прэм'ер-міністра Андрэя Кабякова, пацікавіўся, ці магчыма стварыць на аптовых базах Беларусі асартымент, які быў бы не горш, чым на маскоўскіх рынках. Па словах Кабякова, гэта магчыма, але ўзнікнуць пэўныя складанасці. «Вы гэта зробіце, — сказаў Лукашэнка. — І калі толькі яны (прадпрымальнікі) скажуць, што там не будзе нейкіх шляпакоў або красовак, то вы за гэта адкажаце», — цытуе беларускага праваднра БелТА.

Лукашэнка ўжо даўно даручаў стварыць у Беларусі аналаг маскоўскага Чаркізаўскага рынка, дзе можна набыць усё оптам і танна. Наш «Чаркізон» павінен быў пачаць працу ў Болбасава Аршанскага раёна 1 ліпеня 2014 года. У гэтым яму кляліся тадышнія прэм'ер Мясніковіч і віцэ-прэм'ер Пракаповіч. Зараз няма ні Мясніковіча, ні Пракаповіча, ні «Чаркізона».

На гэтым пазітыўныя рашэнні для прадпрымальнікаў скончыліся. Кіраўнік дзяржавы запатрабаваў у адносінах да ІП «дзейнічаць гнутка, ужываючы эканамічныя механізмы вырашэння праблем, пры рэгуляванні асобных відаў прадпрымальніцкай дзейнасці». «Мы павінны выслухаць прадпрымальнікаў, якія ў іх прапановы па рашэнні пастаўленых імі ж пытанняў, і па выніках аб-





> **Лукашэнка параіў закупацца на беларускіх аптовых базах**

меркавання павінны прыняць рашэнні з перспектывай гэтага віду бізнесу ў краіне», — цытуе Лукашэнку БелТА.

Калі Лукашэнка кажа пра «перспектывы гэтага віду бізнесу», то ён ужо адмовіўся ад жадання паціснуць руку апошняму прадпрымальніку?

На жаль, такога ад яго не дачакаешся, лічыць кіраўнік прадпрымальніцкага аб'яднання «Перспектыва» Анатоль Шумчанка. Увогуле, уся гэтая сітуацыя ў яго выклікае дэжа-вю.

«Роўна 10 гадоў таму, 1 сакавіка 2005 года, мы дамагліся такой жа сустрэчы. Тады, падчас прадпрымальніцкага мітынгу на Кастрычніцкай плошчы Мінска, побач са мной стаяў той жа самы Кабякоў, які атрымаў ад Лукашэнкі тыя ж самыя даручэнні — стварыць аптовыя базы, улічваць інтарэсы ўсіх бакоў, прыняць рашэнні па бізнесу. За 10 год Кабякоў не зрабіў нічога, і мне з цяжкасцю верыцца, што зараз ён нешта зробіць за паўгода», — кажа Шумчанка.

Сама сустрэча Лукашэнкі з прадпрымальнікамі, па словах Шумчанкі, з'яўляецца «пазітыўным крокам», але ён вельмі сумняваецца, што гэтая сустрэча будзе мець нейкі жаданы для прадпрымальнікаў вынік. «Казаць і рабіць — гэта розныя рэчы. На сустрэчы не было вырашана галоўнае пытанне — вызваленне нашых прадпрымальнікаў ад неабходнасці мець дакументы на тавар, якія не выдаюць нашым ІП ані ў Расіі, ані ў Казахстане. Сутнасць жа сказанага: «рэформы Пракаповіча» ў адносінах да ІП працягнуцца. Гэта пераход прадпрымальнікаў на гандаль айчыннымі таварамі, пераход ІП на айчынныя аптовыя базы, і ўсё гэта будзе рабіцца не эканамічнымі, а адміністрацыйнымі метадамі. У выніку сітуацыя ў прадпрымальніцкай сферы не зменіцца, і мы будзем бачыць тое, што бачым зараз — напаўпустыя гандлёвыя цэнтры», — лічыць Шумчанка.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### БАРАНАВІЧЫ. Прадпрымальнік Мікалай Чарнавус замест сустрэчы з Лукашэнкам трапіў у міліцыю

**Лідар баранавіцкіх прадпрымальнікаў Мікалай Чарнавус 17 сакавіка хацеў паехаць у Мінск на анансаваную сустрэчу прадпрымальнікаў з Аляксандрам Лукашэнкам. Але замест сустрэчы з кіраўніком дзяржавы грамадскі актывіст трапіў на індывідуальную размову ў гарадскую міліцыю.**

Супрацоўнік ГАУС капітан міліцыі Сяргей Паўленя правёў з ім прафілактычную размову аб неабходнасці выканання законаў.

— Позна вечарам 16 сакавіка мне патэлефанавалі з міліцыі на мабільны тэлефон і тэрмінова запрасілі на сустрэчу ў ГАУС а 10-й гадзіне раніцы, каб абмеркаваць, па словах супрацоўніка міліцыі, важныя дакументы, якія маюць дачыненне да маёй грамадскай дзейнасці. Я, безумоўна, мог і не пайсці, патрабуючы афіцыйнай позвы. Але мяне ўжо неаднаразова здымалі з цягніка, у кватэры рабілі вобыск, шмат разоў затрымлівалі ў горадзе, нават у бальніцы пільнавалі, каб не ўцёк. Таму я не стаў абвастраць складаныя адносіны з праваахоўнымі органамі і прыйшоў на сустрэчу ў міліцыю. У выніку размовы мяне ўжо другі раз папярэдзілі за апошнія 2 тыдні, каб я не праводзіў мітынгі, шэсці, пікеты прадпрымальнікаў без дазволу гарадскіх уладаў, — паведаміў Мікалай Чарнавус.

Грамадскі актывіст перакананы, што тэрміновае запрашэнне ў міліцыю было найперш звязана з тым, каб перашкодзіць яму паехаць у Мінск на афіцыйную сустрэчу прадпрымальнікаў з прэзідэнтам.

### ГРОДНА. Працягваецца ціск на незалежных журналістаў

**Гродзенскія сябры БАЖ Алесь Дзянісаў і Алесь Кіркевіч былі выкліканы ў аддзяленне міліцыі па вуліцы Гараднічанскай, дзе ў журналістаў былі ўзяты тлумачэнні адносна матэрыялу, які быў паказаны на тэлеканале «Белсат».**

Сюжэт датычыў адкрыцця выставы ў музеі гісторыі рэлігіі. Праверку паводле факту з'яўлення гэтага сюжэту ініцыяваў КДБ. Да 27 сакавіка міліцыя павінна правесці і скончыць праверку на прадмет правапарушэння. Не выключаецца ўзбуджэнне адміністрацыйнай справы паводле артыкулу за незаконны выраб інфармацыйных матэрыялаў.

Гродзенскія праваабаронцы звязваюць такі ціск на незалежных журналістаў з сістэмным знішчэннем незалежных медыя ў рэгіёне.

### САЛІГОРСК. ТБМ збірае подпісы за выкананне моўнага заканадаўства

**Пасля абрання новым кіраўніком салігорскай арганізацыі ТБМ Уладзіміра Масакоўскага мясцовая суполка прыхільнікаў беларускай мовы актывізавала сваю барацьбу за моўную роўнасць у рэгіёне.**

Па ініцыятыве ТБМ салігорцы распачалі збор подпісаў пад патрабаваннем да мясцовых уладаў прывесці шыльды з назвамі Салігорскага райвыканкаму і Савета дэпутатаў, прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў, а таксама ўсю вонкавую інфармацыю ў адпаведнасць з патрабаваннямі моўнага заканадаўства. У патрабаванні звяртаецца ўвага на артыкул 2 Закона «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь», паводле якога дзяржава «забяспечвае ўсебаковае развіццё і функцыянаванне беларускай і рускай моваў ва ўсіх сферах грамадскага жыцця. Рэспубліка Беларусь праяўляе дзяржаўны клопат аб свабодным развіцці і ўжыванні ўсіх нацыянальных моваў, якімі карыстаецца насельніцтва рэспублікі». Аднак у сталіцы шахцёраў, па меркаванні падпісантаў звароту, такога клопату не назіраецца.

Жыхары Салігорска, як індывідуальна, так і ад імя грамадскіх арганізацый, ужо неаднаразова звярталіся ў Салігорскі райвыканкам са скаргамі аб парушэннях у горадзе моўнага заканадаўства. Аднак дагэтуль у абсалютнай большасці арганізацый і ўстаноў, у тым ліку органах мясцовай улады, шыльды з назвамі і вонкавая інфармацыя выкананы толькі на рускай мове, а беларуская мова і яе носьбіты дыскрымінуюцца. Новаабраны старшыня салігорскай арганізацыі ТБМ Уладзімір Масакоўскі спадзяецца, што гэтым разам сітуацыю атрымаецца зварушыць з мёртвай кропкі.

spring96.org

# Прысуд, дуля і куля

Генадзь КЕСНЕР

**18 сакавіка ў Рэчыцы вынесены смяротны прысуд 21-гадоваму месцічу, які 29 жніўня 2013 года згвалціў і забіў 19-гадовую дзяўчыну. Працэс адбываўся ў закрытым рэжыме.**

Мэта гэтай публікацыі не ёсць асвятленне падрабязнасцяў жахлівага злачынства. Справа ў іншым. Суд выносіць чарговы смяротны вырак. Хоць у крымінальным заканадаўстве Беларусі маецца іншая найвышэйшая мера пакарання — пажыццёвае зняволенне. Чаму айчынныя суды не карыстаюцца выключна гэтай мерай пакарання ў якасці самай жорсткай?

Усё да прымітыўнага проста. Пра захаванне і нават актывізацыю выкарыстання смяротнага пакарання выказаўся самы галоўны чыноўнік краіны. «Мяне ўсё больш цягне да таго, каб мы за наўмысныя злачынствы ставілі чалавека да сценкі... Якое ты права маеш жыць, калі ты наўмысна пазбавіў жыцця бездапаможных людзей?!» — грымеў на прэс-канферэнцыі.

Па словах экспертаў, суды, якія прызначаюцца вышэйшай выканаўчай уладай у асобе згаданага палітыка, цалкам ад яе залежныя ва ўсіх сэнсах. Яны яшчэ доўга будуць спасылацца на тое, што, маўляў, у Беларусі быў праведзены рэферэндум, на якім большасць беларусаў выказалася за захаванне смяротнага пакарання. Можа, і выказалася, але хто гэта праверыць і ў гэта паверыць, бо вынікі таго плебісцыту не былі прызнаныя беларускай дэмакратычнай супольнасцю, як і міжнароднымі структурамі.

Сёння нібыта назіраецца нейкая адліга ў дачыненнях паміж Еўрасаюзам і афіцыйным



Мінскам. Нашы ды іх чыноўнікі гойсаюць туды-сюды, дэманструючы актыўную дзейнасць на шляху нібыта размарозкі і нармалізацыі адносінаў.

Падавалася б, хоць мінімальным знакам добрай волі з боку вышэйшага беларускага кіраўніцтва было б невыкарыстанне смяротнага пакарання, чаго патрабуе міжнародная цывілізаваная супольнасць. Тым больш, для самога кіроўнага рэжыму гэтыя злачынцы ніякай пагрозы не нясуць. Не расстрэльваць — гэта значна прасцей для ўладатрымальнікаў, чымся выпусціць на волю ненавісных палітвязняў. Але ў арсенале ўлады па-ранейшаму застаюцца і зняволенні апанентаў, і расстрэлы злачынцаў.

Іншымі словамі, афіцыйны Мінск фактычна паказвае Захаду дулю, выкарыстоўваючы кулю як сродак пакарання злачынцаў. Варта нагадаць, што ні ў адной еўрапейскай краіне, ні ў адной постсавецкай рэспубліцы не прымяняецца смяротнае пакаранне, нават у Расіі.

А вось у Беларусі, кіраўнік якой пазіцыянуе сябе як міратворца, куля як сродак пакарання працягвае прымяняцца. Як гэта карэлюецца ў самай галоўнай галаве краіны? Пытанне без адказу.

Сёлета гэта першы смяротны прысуд у Беларусі. Летась былі расстраляныя тры чалавекі. Ніводнага (апроч аднаго) прашэння аб памілаванні кіраўнік дзяржавы за час свайго валадарства ў Беларусі не задаволіў. У тым ліку не прыслухаўся да просьбаў і патрабаванняў дзясяткаў тысяч людзей, як у Беларусі, так і ў замежжы, аб памілаванні фігурантаў справы аб тэракце ў мінскім метро Уладзіслава Кавалёва і Дзмітрыя Канавалава (той, праўда, прашэнне не падаваў).

Таму і гэтым разам, відаць, чарговаму расстрэльніку разлічваць няма на што. А хоць нейкае збліжэнне з Саветам Еўропы, галоўнай умовай удзелу ў якім ёсць непрымяненне смяротнага пакарання, відаць, адкладаецца на яшчэ больш аддалены тэрмін. Вось такая адліга.

# Генпракуратура не будзе правяраць будаўніцтва каля Курапатаў

Марат ГАРАВЫ

**Генеральная пракуратура адмовілася праводзіць праверку незаконнага будаўніцтва каля Курапатаў. Пра гэта сведчаць матэрыялы ліставання грамадскіх актывістаў з гэтай структурай цягам больш чатырох месяцаў.**

Нагадаем, што 4 снежня мінулага года заяўнікі, у тым ліку старшыня «Хрысціянскай злучнасці «Курапаты» Вацлаў Нямковіч, старшыня Беларускай асацыяцыі ахвяраў палітычных рэпрэсій Зінаіда Тарасевіч, археолаг Валянціна Вяргей, культуролаг Вацлаў Арэшка, мовазнаўца Вінцук Вячорка і грамадскі актывіст Алесь Макаў накіравалі ў Генпракуратуру скаргу.

У ёй абгрунтавана просьба, згодна з артыкуламі 166 і 167 Крымінальна-працэсуальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь, правесці адпаведную праверку і распачаць крымінальную справу па прыкметах злачынства, прадугледжаных артыкулам 425 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь («Бяздзейнасць службовай асобы») альбо іншага артыкула Крымінальнага кодэксу ў адносінах да службовых асобаў, якія трэці год не выконваюць прадстаўленне Генпракуратуры Мінскаму аблвыканкаму ад 27 лістапада 2012 года.

Прадстаўленне тычылася выпраўлення парушэнняў заканадаўства пры будаўніцтве аб'екту прыдарожнага сервісу з былой назвай «Бульбаш-хол», калі СТАА «БелРэстІнвест» незаконна ўзвяло ў ахоўнай зоне Курапатаў шэраг новых аб'ектаў.

У сваіх адказах ад 24 снежня 2014 года, 10 лютага і 10 сакавіка 2015 года Генпракуратура адмовіла заяўнікам у правядзенні праверкі і ўзбуджэнні крымінальнай справы, прычым сваю пазіцыю аніяк не матывавала нормамі айчыннага заканадаўства. Генпракуратура спаслалася толькі на тое, што 1 снежня 2014 года пастановай Міністэрства культуры зацверджаны праект зонаў аховы Курапатаў і страціла сілу пастанова Міністэрства культуры ад 12 мая 2004 года аб часовай схеме зонаў аховы народнага мемарыялу. Прычым, згодна з праектам зонаў аховы Курапатаў, аб'ект прыдарожнага сэрвісу, заказчыкам якога з'яўляецца «БелРэстІнвест», знаходзіцца па-за межамі ахоўнай зоны названай гістарычна-культурнай каштоўнасці, паведамляецца ў адказах Генпракуратуры.

Апроч таго, наглядны орган краіны адмовіў заяўнікам у асабістым прыёме, паколькі не бачыць для яго аніякіх падстаў.

Каментуючы НЧ пазіцыю Генпракуратуры, юрыстка Тамара Сяргей адзначыла, што адказы з нагляднага органу краіны сведчаць не толькі пра незаконнасць дзеяння гэтай дзяржаўнай структуры, але і пра абсурднасць усёй прававой сітуацыі, што склалася ў Беларусі. «Звяртаючыся ў Генпракуратуру, грамадзяне не толькі выклалі факты, што сведчаць пра парушэнне закону, але і абгрунтавалі нормамі заканадаўства свае права на зварот у наглядны орган краіны наконт правядзення праверкі. Аднак Генпракуратура, адмаўляючы грамадзянам у правядзенні праверкі, сваю пазіцыю аніяк не матывавала нормамі заканадаўства. Атрымліваецца, што ў афіцыйным дакуменце выкладзена не больш, чым асабістае меркаванне чыноўніка. Гэтае азначае, што ў краіне меркаванне чыноўніка вышэй за закон», — падкрэсліла юрыстка.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Пакуль зямля яшчэ круціцца...

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Натхнёныя не вельмі змрочнымі паказчыкамі беларускай эканомікі, пэўныя колы ва ўладзе ўпалі ў эйфарыю і вырашылі, што грошы зноў можна ўпіхваць ва ўсялякую лухту. Прынамсі, гэты тыдзень сярод іншага адзначыўся цікава-абсурднымі навінамі.**

Напрыклад, у сядзібна-паркавым комплексе «Панскі маёнтак Сула» ў Стаўбцоўскім раёне Мінскай вобласці плануюць спячы самы вялікі ў Беларусі дранік. Кулінарны цуд прымеркаваны да 21 сакавіка — у гэты дзень праходзіць старажытнабеларускі фестываль сонца і раўнадзенства «Сонцаварот». Дыяметр стравы павінен скласці не менш за два метры.

Прадэгуставаць гіганцкі дранік змогуць усе ўдзельнікі мерапрыемства, абяцае БелТА. Гасцям прапануюць і іншыя стравы з нішчымнага меню, бо ў хрысціян зараз пост. Але падчас пасту ім прапануюць паўдзельнічаць у абрадах «Гуканне вясны», «Абуджэнне мядзведзя» і ў абрадзе ачышчэння агнём. Працягнецца свята спаленнем пудзіла і танцамі.

Дзіўныя людзі на дзіўным свяце. З аднаго боку, клапоцяцца пра хрысціянаў, не забыліся на пост. З іншага — запрашаюць хрысціян удзельнічаць у паганскіх абрадах. Танцы ў пост царква як мінімум не вітае, а пра паганскія абрады і казаць не варта.

У Магілёве ўлады запускаюць «антыспайсавы тралейбус», які будзе папярэджваць жыхароў абласнога цэнтра пра небяспеку ўжывання наркотыкаў. Спецыялісты УУС — генератары ідэі і яе распрацоўшчыкі — выбралі адзін з найбольш запатрабаваных жыхарамі Магілёва тралейбусных маршрутаў — №2. На аформленым у хмурных тонах тралейбусе размесціцца папераджальны надпіс «Спайс забівае!». У салоне плануецца размяшчаць тэкставую інфармацыю па праблемах наркаманіі, будуць гучаць тэматычныя аўдыёролікі. Перыядычна з пасажырамі будуць працаваць прадстаўнікі антынаркатычных атрадаў установ адукацыі і валанцёры. Яны зоймуцца распаўсюджваннем флаераў і ўлётак, якія распавядаюць аб наступствах ужывання спайсаў.

Рэч таксама дзіўнаватая. Па-першае, невядома, які будзе ад гэтага тралейбуса вынік. Як правіла, у транспарце ездзяць з працы і дадому дарослыя людзі, а шкаляры ходзяць у школу пешшу. Як адзначаюць самі ж «генератары ідэі», спайс разлічаны ў асноўным на 13–15-гадовых падлеткаў, у якіх у арганізме адразу наступаюць змены: ад адзінкавага ўжывання часам выгараюць цэлыя ўчасткі галаўнога мозгу. Так што «антыспайсавікі» абралі не тую мэтавую аўдыторыю.

Акрамя таго, спецыялістамі па піяру даўно заўважана, што няма лепшай рэкламы, чым антырэклама. Баюся, што вынік ад гэтага антынаркатычнага транспартнага сродку будзе цалкам супрацьлеглы жаданаму.

Між тым, расслабляцца не трэба. У нас не ўсё так добра, і гэтая адліга — проста зацішша перад бурай. Белстат на тыдні апрылюднiў шакуючыя фінансавыя вынікі працы беларускіх кампаній у студзені 2015 года. Чыстыя страты беларускага бізнесу за студзень склалі амаль $3 мільярды!

Дадзеныя сабраныя па 8 000 кампаній краіны. У гэты спіс не ўваходзяць банкі, страхавыя і бюджэтныя арганізацыі, а таксама дробны бізнес. І толькі гэтыя прадпрыемствы згубілі за месяц

**42,9**

**трыльёна рублёў згубілі прадпрыемствы за месяц, альбо $2,98 мільярда ў эквіваленце. Стратнымі былі 28,6% кампаній. Кожная з іх у сярэднім страціла за студзень па $1,7 мільёна**

42,9 трыльёна рублёў, альбо $2,98 мільярда ў эквіваленце. Стратнымі былі 28,6% кампаній. Кожная з іх у сярэднім страціла за студзень па $1,7 мільёна.

Для параўнання, год таму беларускія кампаніі мелі чысты прыбытак у памеры каля $260 мільёнаў.

І гэта яшчэ нават не пачатак крызісу, лічыць, напрыклад, кіраўнік кансалтынгавай групы «Тут і Цяпер» Аляксандр Панькоў. Эксперт звяртае ўвагу, што ў складанай эканамічнай сітуацыі апынуліся беларускія прадпрыемствы, праца якіх завязана на супрацоўніцтве з расійскімі кампаніямі. «Тыя нашы фірмы, якія раней адчувалі сябе добра на расійскім рынку, зараз знаходзяцца ў дэпрэсіўным стане. Аднак наступствы крызісу ў суседняй краіне мы адчуем праз 4 месяцы, таму што разлікі з расіянамі за пастаўленую прадукцыю і аказаныя паслугі адбываюцца з затрымкай», — кажа Панькоў. Паводле ягоных прагнозаў, праз чатыры месяцы ў Беларусі пачнецца хваля банкрутцтваў, пры гэтым не пераважыце крызіс 25% бізнесу.

«Калі ў Расіі ёсць драйвер, які дазволіць пратрымацца яшчэ некаторы час, — ваенна-прамысловы комплекс, то ў нас такога рухавіка няма. Сёння і кіраўніцтва, і персанал нашых прадпрыемстваў спадзяюцца, што праз некалькі месяцаў сітуацыя ў Расіі нармалізуецца, і нам таксама палягчэе. Але стан эканомікі суседняй краіны не палепшыцца бліжэйшыя два гады», — застрашвае Панькоў.

Ці сапраўды ўсё так кепска, як мяркуе спецыяліст? Можна было б сказаць, што гэта — толькі меркаванні і прагнозы. Аднак для гэтых прагнозаў маецца самы змрочны фон. Гэта не толькі страты прадпрыемстваў, якія можна было б спісаць на снежаньска-студзеньскую дэвальвацыю. У нас пакрысе замірае вытворчасць.

Факт ад нашага любімага Белстата: за люты ў краіне сабрана толькі 3 (!) камбайны. Усяго за 2 месяцы гэтага года выпушчана 56 збожжаўборачных камбайнаў, што на 62,2% менш, чым у студзені-лютым 2014 года. Вытворчасць кар'ерных самазвалаў скарацілася на 30,2% да 88 адзінак, грузавых аўтамабіляў — на 26,5% да 862 адзінак, аўтобусаў — на 32,8% да 152 экземпляраў.

Між тым, мы працягваем весяліцца. 17 сакавіка завяршыўся адкрыты конкурс на стварэнне помніка карове, які ў гэтым годзе абвясціў Мінгарвыканкам. Журы ацэніць прадстаўленыя на конкурс працы і назаве лепшыя з іх да 25 сакавіка гэтага года. Усталяваць помнік плануецца на пляцоўцы перад Камароўскім рынкам. Там ужо ёсць фантан, помнік гандлярцы семкамі і помнік невядомаму фатографу. Куды ўлепяць яшчэ і карову — незразумела.

Аднак характэрна, што на помнік карове сродкі знайшліся, а вось на помніку Рыгору Барадуліну, Васілю Быкаву і Генадзю Бураўкіну — не. Яшчэ напрыканцы лютага міністр культуры Барыс Святлоў прызнаўся, што помнікі Барадуліну, Быкаву і Бураўкіну ў гэтым годзе ўсталяваныя не будуць. «Гэтае пытанне стаіць, яно абмяркоўваецца і будзе ў выніку вырашана. Што датычыцца канкрэтнага тэрміну, то гэта залежыць ад грошай, вы ведаеце сённяшнiя фінансавае і эканамічнае становішча. Гэта можа быць і год, і два, і тры. Дакладна я вам нічога не скажу, але ў 2015-м грошай на гэта ў мяне не будзе», — казаў культурны міністр.

Не ў першы раз у гэтай краіне карова даражэйшая за людзей.

ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



## Юрый Жадобін

**Непрыемная навіна напаткала былога міністра абароны Беларусі.**

Рада ЕС не збіраецца выключаць Юрыя Жадобіна з санкцыйных спісаў, гаворыцца ў паведамленні, апублікаваным на сайце афіцыйнага часопіса Еўрасаюза.

«Рада мае намер падтрымліваць абмежавальныя меры ў дачыненні да гэтай асобы (Жадобіна) з новым выкладаннем прычын», — інфармуе часопіс ЕС. Там таксама адзначана, што Жадобін можа падаць запыт у Савет для атрымання тлумачэнняў адносна новых прычын, на якіх ён не выключаны з санкцыйных спісу.

Нагадаем, што Жадобін апынуўся неўязным у ЕС па выніках прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня 2010 года і разгону акцыі пратэсту пасля іх. Зараз тэрмін дзеяння абмежавальных мер у дачыненні да чыноўнікаў і прадпрыемстваў падоўжаны да 31 кастрычніка 2015 года ў сувязі з тым, што «палітвязні да гэтага часу не вызваленыя, а паляпшэнняў у сферы павагі правоў чалавека, вяршэнства закона і дэмакратычных прынцыпаў у Беларусі не назіраецца», гаворыцца на сайце афіцыйнага часопіса ЕС.



## Дзмітрый Салагуб

**Сярод шматлікіх замежнікаў ва ўрадавых структурах Украіны з'явіўся і грамадзянін Беларусі.**

Дзмітрый Салагуб прызначаны выконваючым абавязкі намесніка старшыні Нацыянальнага банка Украіны.

17 сакавіка ён пачаў ажыццяўляць агульнае кіраўніцтва манетарным напрамкам банку, паведаміла прэс-служба НБУ.

Каментуючы прызначэнне, старшыня НБУ Валерыя Гонтарава сказала пра Дзмітрыя Салагуба: «З гэтага часу за развіццё функцыі забеспячэння манетарнай стабільнасці, эфектыўнае фармуляванне крэдытна-грашовай палітыкі рэгулятара будзе адказваць вядучы эканаміст, які з'яўляецца аўтарытэтным і добра вядомым у эканамічных і фінансавых колах як нашай краіны, так і за мяжой».

Салагуб нарадзіўся ў 1978 годзе, і ў 2000 годзе скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, атрымаўшы кваліфікацыю эканаміста, выкладчыка эканомікі. У 2002 годзе скончыў Кіеўскую школу эканомікі. Затым працаваў у Міжнародным валютным фондзе, быў кіраўніком аддзела даследаванняў Райфайзенбанка, кансультантам у НБУ. Прызначэнне Салагуба заняло некалькі месяцаў, таму што, па законах Украіны, чыноўнік павінен мець украінскае грамадзянства.



## Уладзімір Бурэ

**Бацька знакамітых братоў-хакеістаў Паўла і Валерыя Бурэ стаў трэнерам па фізпадрыхтоўцы беларускай зборнай.**

Такім чынам, на Чэмпіянаце свету па хакеі ў Чэхіі (1–17 мая), а таксама на заключным этапе падрыхтоўкі галоўнаму трэнеру беларускай зборнай Дэйву Люісу будуць дапамагаць чатыры спецыялісты: Крэйг Вудкрафт, Мікаэль Ленер (трэнер брамнікаў), Уладзімір Бурэ (трэнер па фізпадрыхтоўцы) і Вячаслаў Гусаў (відэатрэнер).

Вудкрафт і Ленер ужо прыцягваліся да працы са зборнай у ходзе лютаўскага збору. Тады каманда заняла трэцяе, перадапошняе месца, на турніры Metal Euro Ice Hockey Challenge ў Даніі. Дапамагаць Люісу будуць таксама Алег Антоненка і Аляксандр Журык. Усе трэнеры прыбудуць у Мінск да пачатку вучэбна-трэніровачнага збору, які пачнецца 26 сакавіка. Вудкрафт далучыцца да каманды пазней, паколькі яго клуб, нямецкі «Мангейм», працягвае барацьбу ў плэй-оф DEL-лігі.

Уладзімір Бурэ — у мінулым плывец, але стаў трэнерам па фізпадрыхтоўцы ў хакеі. У гэтай якасці працаваў у НХЛ, дзе двойчы стаў уладальнікам Кубка Стэнлі (2000, 2003).

Знайшлася праца і Андрэю Мезіну, які завяршыў гульнявую кар'еру: у бліжэйшы час ён будзе выступаць у ролі стажора настаўніка брамнікаў.

Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Плюсы і мінусы карупцыі

**Хабар — гэта дывідэнды, якія чыноўнікі атрымліваюць ад сумеснага валодання дзяржаўнай уласнасцю.**

Выпадкі публічнага дыялогу паміж уладай і грамадствам у Беларусі можна пералічыць па пальцах. Такая ў нас склалася традыцыя. Аднак пачатак 2015 года прэтэндуе на тое, каб яе парушыць.

29 студзеня сустрэча адзінага палітыка (АП) з прадстаўнікамі беларускіх і замежных СМІ прайшла ў рэжыме дыялогу. У рэдакцыі «Савецкай Беларусі» дыялог працягнуўся. Прадстаўнікі дзяржавы, праўладных і апазіцыйных партый абмяняліся думкамі на тэму барацьбы з карупцыяй.

## Статыстыка поспехаў

Карупцыйная тэма для працягу дыялогу абраная невыпадкова. Ва ўладзе і ў расколатым беларускім грамадстве наконт гэтага пытання існуе кансенсус. Практычна ўсе згодныя з тым, што «гэта зло» варта «выпальваць калёным жалезам».

Карупцыйная тэма нязменна прыцягвае ўвагу «шырокай грамадскасці». Перафразуючы вядомую прыказку, вазьму на сябе смеласць сцвярджаць, што нішто нас (простых людзей) так не радуе, як гора вялікага начальніка, абвінавачанага ў карупцыі. «Людзей, — адзначае палітолаг Уладзімір Пастухоў, — не так раздражняе карупцыя, колькі ўзбуджае яе вынік». Таму антыкарупцыйныя поспехі ўлады ўспрымаюцца як шоў.

Аднак вернемся ў рэдакцыю «СБ» і паслухаем інфармацыю начальніка ўпраўлення па барацьбе з карупцыяй і арганізаванай злачыннасцю Генпракуратуры Ігара Грэйбо. Яна адназначна сведчыць пра поспехі. Мяркуйце самі. Карупцыйныя злачынствы ў агульнай колькасці зарэгістраваных з года ў год складаюць не больш за 2,5 – 3%. Сацыёлагі фіксуюць зніжэнне вастрыні карупцыйнай праблемы ў грамадстве: у 2005 годзе карупцыя турбавала 68% беларусаў, у 2014 — 47%.

Дзяржава не адчувае дэфіцыту «калёнага жалеза» і пастаянна пускае яго ў ход: «Паводле дадзеных 2013–2014 гадоў, калі ў агульнай структуры крымінальных пакаранняў пазбаўленне волі склала 24%, то за карупцыйныя злачынствы — 45%. За атрыманне хабараў 70% асуджаных прызначана пазбаўленне волі».

Пасля такога рапарту перад штатнымі барацьбітамі з карупцыяй хочацца зняць капялюш. Незразумела толькі, чаму паводле дадзеных Transparency International па ўзроўні карупцыі Беларусь у 2002 годзе была на 32-м месцы, а сёння — на 122-м. Ігар Грэйбо тлумачыць такі скачок дастаткова крытычным стаўленнем міжнародных экспертаў да Беларусі. Адпаведна, пры ацэнцы ўзроўню карупцыі ў іншых краінах крытычны падыход змяняецца лаяльным. Ці я нешта не так зразумеў?

## Прыватніку сказаў — ён зрабіў

Для ацэнкі эфектыўнасці любога метаду ліквідацыі карупцыі лагічна было б пачаць з аналізу яе прычын. Аднак усе мае спробы адшукаць адпаведныя дакументы да поспеху не прывялі. Беларускія змагары з «гэтым злом» рухаюцца па каляіне, што праклалі яшчэ іх савецкія папярэднікі.

Савецкая карупцыя расла на татальным дэфіцыце, цэнтралізаванай сістэме размеркавання і планавым кіраванні. Аднак яе вынішчалі шляхам удасканалення кадравай работы, зніжэння ўзроўню бюракратызму пры разглядзе скаргаў грамадзян, узмацнення планавай і фінансавай дысцыпліны і, зразумела, узмацнення жорсткасці заканадаўства (савецкі варыянт «калёнага жалеза»).

Г. зн. карупцыя была законна народжаным дзіцём савецкай сістэмы, базавых прынцыпаў яе арганізацыі. Разглядаць карупцыю ў якасці адхіленняў ад агульнапрынятых нормаў (дэвіянтных паводзінаў), якія дазвалялі сабе асобныя прадстаўнікі ўлады, было б вялікай памылкай.

У адрозненне ад сваёй планавай папярэдніцы, сучасная беларуская эканоміка функцыянуе ў квазірынкавым асяроддзі. Карупцыя — яе важнейшы складовы элемент. На чым сёння зарабляюць асноўныя грошы дзяржаўныя і прыватныя кампаніі? Яны не выбудоўваюць рынкавую стратэгію, а змагаюцца за дзяржаўныя рэсурсы. Гэта ключавы момант у квазірынку з яго расплывістай мяжой паміж дзяржаўным і прыватным. Таму тое, што ад кіраўнікоў прадпрыемстваў перадаецца чыноўнікам і ў грамадстве прымаецца за хабар, па сутнасці — дывідэнды ад сумеснага валодання.

У квазірынку адсутнічаюць законныя механізмы ўзгаднення прыватных і групавых інтарэсаў ужо з прычыны таго, што сам факт наяўнасці квазірынку не прызнаецца. Афіцыйна ў краіне існуе паўнавартасны рынак, пад яго і пабудавана заканадаўства. Але паўнавартасны рынак, як мінімум, патрабуе паўнавартаснай прыватнай уласнасці. А дзе вы ў Беларусі такую бачылі?

Як тут ні працытаваць галоўнага суаўтара маіх «азбук паліталогіі»: «С частником разговаривать всегда легче. Ему сказал — он сделает. Потому что, по большому счету, рискует в противном случае потерять свою собственность».

У квазірынку беларускага ўзору квазіпрыватнікі распараджаюцца квазіўласнасцю, вырашаючы пры гэтым свае канкрэтныя праблемы з дзяржавай не на падставе квазізаконаў, а пры дапамозе асабістых дамоўленасцяў з чыноўнікамі.




## Хто сёння паспяховы?

Пра ролю асабістых сувязяў у функцыянаванні беларускай мадэлі мне даводзілася пісаць неаднаразова. Без іх і кроку нельга ступіць ні на міждзяржаўным узроўні, ні на побытавым. Паслухайце любую прэс-канферэнцыю АП. Для яго беларуска-расійскія адносіны — гэта яго асабістыя адносіны з Пуціным. І так па любым пытанні.

А цяпер з дапамогай эканаміста Уладзіслава Іназемцава звернем свой погляд на ніжні ўзровень сацыяльнай іерархіі: «Пачынаючы з першых постсавецкіх гадоў стала складацца грамадства, у якім чалавек мог дамагчыся практычна ўсяго, але ва ўмовах, калі ён дзейнічаў індывідуальна і не імкнуўся абапірацца на грамадскую кансалідацыю. Калі вы хочаце вырашыць нейкую праблему, прасцей даць хабар, дамовіцца пра выключнае стаўленне або проста заплюшчыць вочы на тыя ці іншыя правілы, але толькі не спрабаваць усумніцца ў іх законнасці і не патрабаваць іх змены».

Іназемцаў піша пра расійскае грамадства. Але наколькі апраўданы перанос яго высноваў на беларусаў? Адкрыем часопіс «Сацыялагічны альманах» за 2013 год, які выдае Інстытут сацыялогіі НАН РБ. На старонцы 164 знаходзім надзвычай цікавую інфармацыю. На пытанне: «Хто сёння мае поспех у беларускім грамадстве?» у тройцы лідараў апынуліся наступныя варыянты адказаў: крымінальна-мафіёзныя структуры (74,3%); той, хто займае высокую пасаду, знаходзіцца ва ўладзе (61%) і чалавек з сувязямі (45,1%). А ў ніжняй частцы шорт-ліста дабрабыту па-беларуску апынуўся прадпрымальны, дзелавы (30,2%); высокакваліфікаваны, таленавіты (6,7%) і працавіты (4,7%).

Слова «карупцыя» ў пытанні і варыянтах адказаў не фігуруе. Але якім чынам могуць дасягаць дабрабыту сябры крымінальна-мафіёзных структураў, і чаму на трэцім прызавым месцы апынуўся чалавек з сувязямі?

У квазірынкавай эканоміцы карупцыйныя механізмы адыгрываюць ролю гарызантальных сувязяў, без якіх не можа функцыянаваць ні грамадства, ні дзяржава. «Калі раптам у нейкі Дзень гневу, — справядліва заўважае палітолаг Станіслаў Бялкоўскі, — карупцыя будзе скасаваная (цудоўным чынам, паколькі іншага варыянту пакуль не бачна), апарат дзяржкіравання згорнецца, бо знікне сам сэнс яго існавання».

Як адаб’ецца скасаванне карупцыі на насельніцтве? Зноў працытую Іназемцава: «У цэлым карупцыя дапамагае мільёнам расіян жыць значна прасцей, чым калі б ім супрацьстаяла тая ж маразматычная расійская дзяржава, ды яшчэ і непадкупная».

Пра ўзровень маразматычнай беларускай дзяржавы меркаваць не бяруся. Але жыццё простага беларуса ў квазірынкавай эканоміцы ператварылася б у сапраўднае пекла. Жорсткасць нашых законаў, як вядома, кампенсуецца неабавязковасцю іх выканання. Гэтая неабавязковасць і забяспечваецца за кошт асабістых сувязяў, г. зн. карупцыі.

## Гэта ўзаемны працэс

Калі 2013-ы быў абвешчаны АП годам мадэрнізацыі, то 2014-ы — годам барацьбы з карупцыяй. Таму нядзіўна, што слова «карупцыя» ў Пасланні–2014 згадвалася 38 разоў, а слова «мадэрнізацыя» — толькі 14 разоў. Годам раней суадносіны былі адваротныя: 3 і 49 адпаведна.

Карупцыя разам са слабасцю эканомікі ў Пасланні–2014 была абвешчана галоўнай прычынай украінскага крызісу. «Они (карупцыя і слабасць эканомікі) абсолютно взаимосвязаны. Украинский кризис — это предупреждение всем. И мы обязаны сделать свои выводы».

З гэтым не паспрачаешся. Але тут неабходна даць тлумачэнне. Карупцыя і слабасць эканомікі — гэта не паралельныя з’явы, а цесна ўзаемазвязаныя. У карумпаваным асяроддзі ўсе эканамічныя суб’екты будуць зацікаўленыя ў тым, каб падкупіць чыноўніка, які прымушае выконваць закон. Гэта азначае, што ў прыватным сектары ўсё стымулы будуць працаваць у напрамку падрыву сістэмы дзеючых правілаў. Пра якую эфектыўнасць тады гаворка!

Рост карупцыі трансфармуецца ў рост неэфектыўнасці кіравання. Калі карупцыя расце лавінападобна, гэта азначае крах сістэмы кіравання. АП гэта разумее. Думаю, ён здагадваецца і пра рэальны маштаб карупцыі: «Откаты, взятки за благоприятное решение вопросов, злоупотребление служебным положением выявляются во всех сферах и областях».

Чарговую антыкарупцыйную хвалю не варта разглядаць выключна як піяр. У выпадку поспеху АП будзе галоўным бенефіцыярам. Ён цалкам зацікаўлены ў выдаленні «ржавчины коррупции». Але ў яшчэ большай ступені ён зацікаўлены ў захаванні беларускай мадэлі, якая карупцыю спараджае.

Пакуль АП вырашае свае праблемы, сярэднестатыстычны беларус прыстасаваўся жыць у карумпаванай дзяржаве і, мяркуючы па апытаннях незалежных сацыёлагаў, нядрэнна сябе адчувае. Больш за тое, з дапамогай карупцыйных механізмаў ён навучыўся маніпуляваць уладай. Гэта заўсёды ўзаемны працэс, які ўпэўнена вядзе ўсіх нас убок ад цывілізаванага свету.



Мікалай АНІШЧАНКА

# З дыпаматаў у маркетолагі

**Выразна азначаючы прыярытэты сваёй знешняй палітыкі, беларускія ўлады заўсёды намагаліся развіваць і альтэрнатыўныя накірункі. Што гэта за накірункі і ці здольныя яны закрыць вялізнае адмоўнае сальда знешняга гандлю?**

Палітычны аспект сувязяў з многімі краінамі для Беларусі не вельмі істотны, таму эканоміка часта выходзіць на першы план. Прадаць прадукцыю праблемных прадпрыемстваў — ці не галоўная задача, якая ставіцца перад айчыннай дыпламатыяй, што робіць сучасную знешнюю палітыку краіны звышпрагматычнай, а шмат якіх беларускіх дыпламатаў ператварае ў маркетолагаў.

Збыць прадукцыю ў развітыя заходнія краіны, натуральна, вельмі складана. Але ў іншыя краіны, тэхналагічны ўзровень якіх часта ніжэйшы за беларускі, магчыма. На думку аналітыка Цэнтра Астрагорскага Сяргея Богдана, з гэткага абагульнення многія ў беларускай уладзе ўспрымаюць усіх альтэрнатыўных партнёраў Мінска як нешта адно, што няправільна.

Усе краіны, да якіх беларуская дыпламатыя мае найбольшую цікаўнасць, можна падзяліць на тры рэгіёны: у парадку змяншэння патэнцыйных дывідэндаў: Блізкі Усход, Лацінская Амерыка і Афрыка.

## Рэгіён: Блізкі Усход

**Ключавыя партнёры:** пераменлівыя (Ірак; «Шыіцкая дуга» ў выглядзе Ірана, Сірыі; арабскія суніцкія манархіі — Саудаўская Аравія, Аб’яднаныя Арабскія Эміраты; Турцыя)

### Асцярожна мяняем партнёраў

У самым, бадай, вірлівым рэгіёне свету Беларусь цягам апошніх 15 гадоў пастаянна мяняла сваіх галоўных хаўруснікаў, прымудраючыся абапірацца то на садамаўскі Ірак, то на яго галоўнага ворага — асадаўскую Сірыю і яе адзінага абаронцу — Іран, то, наадварот, на варожых да «шыіцкай дугі» (Іран, Сірыя, частка Іраку) манархіі Аравійскага паўвострава.

«З самага пачатку для Беларусі былі прыярытэтнымі Лівія і Ірак, — распавядае Сяргей Богдан. — Аднак потым у Іраку скінулі Садама, а з Кадафі справа неяк не выгарала: відавочна, што Мінск спадзяваўся там на шмат большае, чым у выніку атрымаў. Тады пераарыентаваліся на Тэгеран і Дамаск».

Супрацоўніцтва з ісламскай і арабскай рэспублікамі ў 2000-х развівалася, натуральна, зайздроснымі тэмпамі — але да 2009 года было мінімізаванае. Богдан падкрэслівае, што адбылося гэта менавіта па ініцыятыве беларускага боку.

«Ахмадзінежад (тагачасны прэзідэнт Ірана) адкрыта пачаў бравіраваць ядзернай праграмай, і фактычна давёў сітуацыю да таго, што ўжо стала вельмі рызыкоўна мець вельмі шмат гешэфтаў з Іранам. Можна было сутыкнуцца з жорсткім супрацьдзеяннем цэлага шэрагу краінаў — не толькі ЗША, але і іх хаўруснікаў, Ізраіля. Мінск бачыў таксама, што нават яго найбліжэйшы саюзнік — Расія — пабойваецца працаваць з Тэгеранам (памятаеце скандал з адменай паставак у Іран комплексаў С–300?). Ну а ў Сірыі напачатку 2010-х гадоў ужо грамадзянская вайна пачыналася, і ўсе планы Беларусі там абнуліліся», — лічыць эксперт.

Пабедаваўшы крыху з гэтай нагоды, Беларусь пачала правяраць брод у далёкіх землях — краінах Індакітаю, Інданезіі, Малайзіі. Гэта перспектыўныя накірункі, але замяніць імі Блізкі Усход было б вельмі складана, лічыць суразмоўца «Новага часу». Напачатку 2010-х гадоў высілкі беларускай дыпламатыі накіроўваюцца на заможныя суніцкія дзяржавы Аравійскага паўвострава — Аб’яднаныя Арабскія Эміраты, Катар, Аман. Усе гэтыя манархіі з’яўляюцца абсалютнымі ворагамі Тэгерану.

На пытанне, чаму яны сталі хаўруснікамі Беларусі, Сяргей Богдан вылучае версію, нібыта «катарскі востраў, які паабяцалі Лукашэнку — то была такая прыманка, каб адвадзіць яго ад нейкага гешэфту з Іранам».

«У WikiLeaks ёсць некалькі дэпешаў, дзе вядзецца пра тое, што арабскія краіны супрацоўнічаюць са Штатамі ў тым сэнсе, каб пераканаць Расію не пастаўляць С–300 у Іран. Прынамсі, былі прапановы Маскве з боку Саудаўскай Аравіі: маўляў, мы ў вас купім зброі на некалькі мільярдаў долараў, а вы за гэта не пастаўляйце ў Іран ракеты». Беларусь як партнёр Расіі, у тым ліку ў ваенна-прамысловай сферы, не магла не патрапіць пад пільную ўвагу ворагаў Ірану», — лічыць Богдан.

Довадам на карысць яго словаў служыць той факт, што з Аравійскім паўвостравам у Беларусі не шмат чаго і атрымалася — нягледзячы на тое, што Мінск па пэўных накірунках прапанаваў шэйхам эксклюзіўныя ўмовы супрацоўніцтва. Візіт Лукашэнкі ў Эміраты ў лістападзе 2014 года, змястоўная частка якога сталася занадта сціплай, эксперт лічыць хутчэй прыватнай паездкай, чым паказчыкам высокага ўзроўню стасункаў.



І вось — новы паварот. 8–9 лютага кіраўнік беларускай дыпламатыі наведвае разбураны Дамаск і перадае пасланне Лукашэнкі прэзідэнту Башару Асаду, а праз колькі тыдняў Мінск са шматдзённым візітам наведвае містэр Персідская Харызма — міністр замежных спраў Ірана Джавад Зарыф. Наконт мэты неспадзяванага візіту Макея ў Сірыю эксперты ўсіх масцяў губляюцца ў здагадках, а наведванне Беларусі Зарыфам заканчваецца ці не дыпламатычным скандалам, які Тэгеран, між іншым, наўпрост праглынае.

### Для Ірана мы — Еўропа

Фармальна Джавад Зарыф прыязджаў у Мінск з пратакольнай місіяй — адкрыць новы будынак іранскай амбасады, у які Тэгеран уклаў безліч грошай. Насамрэч, можна было заўважыць, што акрамя свайго беларускага калегі персідскі міністр сустрэўся тут з усім кіраўніцтвам заканадаўчай і выканаўчай улады нашай краіны — прэм’ерам Кабяковым, старшынёй Савета Рэспублікі Мясніковічам ды прэзідэнтам Лукашэнкам. І… атрымаў ад іх добрыя нагаяі.

Галоўны меседж беларускай улады быў шырока трансляваны айчыннымі СМІ: іранскія інвестыцыі не ідуць у Мінск запланаванымі тэмпамі; так «сябраваць» нельга. Харызматык Зарыф у адказ толькі прадаваў зубы. За фасадам дыпламатычнай усмешкі нельга было разглядзець, як ацэньвае ён ступень беларускае гасціннасці.

«Заявы трох беларускіх кіраўнікоў — і ўсё пра адно і тое ж. І ўсё гэта друкуецца. Я не разумею, навошта было рабіць такую крытыку, ды абавязкова — на людзях. Такое ўражанне было, што Мінск стараецца зрабіць гэта адкрыта, каб нехта заўважыў. Хто мусіў гэта заўважыць — можна толькі здагадвацца», — гаворыць Сяргей Богдан.

Але, мяркуе ён, на беларуска-іранскіх дачыненнях такая недыпламатычная крытыка не адаб’ецца ніяк, бо Беларусь Ірану сёння патрэбная як ніколі.

Па-першае, Беларусь — адна з якіх пяці «вокнаў», праз якія Тэгеран мае выхад у свет. Па-другое, прычына ў Сірыі: фактычна знаходзячыся на ўтрыманні іранскага бюджэту, яна стала галоўным геапалітычным праектам Тэгерана за дзесяцігоддзі. Тэгеран страшэнна баіцца «Ісламскую дзяржаву», аддае рэжыму Асада астатняе на барацьбу з фундаменталістамі, і за рэалізацыю беларускіх праектаў па аднаўленні сірыйскай вытворчасці гатовы шчодра ўзнагароджваць.

«Мінск не займаецца дабрачыннасцю. Мінск не займаецца буйнымі палітычнымі, геапалітычнымі праектамі. У Мінска вельмі прагматычная знешняя палітыка. І калі Макей едзе ў разбураны Дамаск, да ўраду, які не кантралюе там і паловы сваёй тэрыторыі, у мяне такое пытанне: а на што ён разлічвае? Калі Беларусь будзе наладжваць у раздзярбаненай вайной Сірыі вытворчасць прадукцыі, то хто за гэта будзе плаціць? Дамаск — не зможа. Відавочна: усё аплаціць Тэгеран».

У доказ эксперт прыводзіць разгорнутую публікацыю нацыянальнага іранскага інфармагенцтва «Fars», прысвечаную візіту Макея ў Дамаск.

«Не буду казаць, што звычайна «Fars» не каментуе візіт беларускіх чыноўнікаў у іншыя краіны, і нават у сам Іран. А там з’яўляецца «прагон» на тры старонкі — аб тым, як крута, што Макей паехаў туды, што гэта — літаральна — пачатак павароту Еўропы да Сірыі. Нарэшце ўсе адумаліся; зараз Беларусь падключыцца да аднаўлення Сірыі, і справы, якія там раней ішлі так кепска, зараз пойдуць добра — вось кароткі змест таго агляду».

Зварот да супрацы з шыіцкімі краінамі стаўся магчымым праз паляпшэнне іх дачыненняў з Захадам. «Захад вядзе з Іранам актыўныя перамовы па ядзерным дасье; Тэгеран ужо рукапажаты. Што да Сірыі, калі раней абсалютна ніякага прымання Асада на Захадзе не было — зараз фактычна ніхто не настойвае на тым, што яго трэба абавязкова скідваць. Дэпутаты французскага парламенту ездзяць да Асада. Таму Мінск палічыў, што кантакты з Тэгеранам і Дамаскам ужо не настолькі рызыкоўныя, як некалькі гадоў таму».

Але ў эксперта ёсць яшчэ адна версія актывізацыі працы на шыіцкім накірунку: гэткая актыўнасць можа мець мэтай павысіць сваю цану ў вачах арабскіх манархій. «Супраца з Тэгеранам для іх — гэта чырвоная ануча, якая вызывае пэўны рэфлекс: супраць гэтага трэба дзейнічаць», — гаворыць ён.

Звяртае эксперт увагу і яшчэ на адзін нядаўні візіт — былога прэс-сакратара, а зараз амбасадара Беларусі ў Турцыі і Іраку (па сумяшчальніцтве) Андрэя Савіных у Ірак, які таксама зараз змагаецца з «Ісламскай дзяржавай». Спадар Савіных правёў перамовы ў Багдадзе і наведаў іракскі Курдыстан.

«Тут трэба разумець, што іракскі Курдыстан зараз — гэта абсалютна празаходняе, праізраільскае ўтварэнне, якое таксама поўны антыпод Тэгерана і Дамаска», — заўважае эксперт.

Не менш цікава на тле актывізацыі сувязяў з Тэгеранам і Дамаскам выглядае праца на турэцкім кірунку. Гістарычны візіт кіраўніка МЗС Турцыі Ахмета Давутаглу, якога ў пэўных колах называюць архітэктарам вайны ў Сірыі (яшчэ да з’яўлення там «Ісламскай дзяржавы»), застаўся амаль не заўважаным беларускімі СМІ.

«Гэта паказвае, што Мінск не складвае ўсе яйкі ў адзін кошык, — упэўнены спадар Богдан. — Давутаглу вельмі рукапажатны на Захадзе — нягледзячы на тое, што ён сабе часам вельмі шмат дазваляе. І гэта выхад для Беларусі на Захад, як Саакашвілі калісьці: праз Анкару Мінск мае магчымасць нават дасылаць нейкія меседжы Вашынгтону».

На ўдакладняючае пытанне аб механізме такой апасродкаванай камунікацыі з ЗША Богдан кажа: «Гэта не значыць, што меседжы перадаюцца для таго, каб Эрдаган завёз іх у Вашынгтон. Але сваімі паводзінамі і ў дачыненні да Турцыі, і да курдаў, і да Сірыі Беларусь імкнецца нешта паказаць Захаду. Іншае пытанне, ці адчувае Захад тыя сігналы — я мяркую, не заўсёды».

**Пра іншыя рэгіёны і ключавых партнёраў чытайце ў наступным нумары ці на нашым сайце novychas.info**

TV

## 27 САКАВІКА, ПЯТНІЦА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!.
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!.
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!.
**09.00** Навіны.
**09.15** Ваенная драма «Сямнаццаць імгненняў вясны» СССР.
**10.50** Ретрадрама «Тальянка».
**11.00** 90 секунд.
**12.00** Навіны.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы-2».
**13.00** 90 секунд.
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Мастацкі фільм «Здрада».
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Мастацкі фільм «20 гадоў без кахання».
**16.00** 90 секунд.
**16.30** Серыял «Сямейныя меладрамы-2» (Украіна).
**17.25** «Terra incognita». Беларусь невядомая.
**17.55** Нашы.
**18.10** Тэлефільм АТН цыклу «Вялікі рэпартаж».
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**19.55** Ретрадрама «Тальянка».
**21.00** Панарама.
**21.45** Нашы.
**21.55** Мастацкі фільм «Пяць гадоў і адзін дзень».
**23.50** Навіны.
**00.10** Дзень спорту.
**00.25** Мастацкі фільм «20 гадоў без кахання».

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.05** «Вучыцца жыць».
**14.35** «Час пакажа».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Беражыся аўтамабіля». Мастацкі фільм.
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне. Беларусь».
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Тры акорды.
**23.05** Што? Дзе? Калі?
**00.15** Вячэрні Мінск.
**01.05** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «ПіраМММіда».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.35** «Жаданая». Серыял.
**15.40** «Ежа багоў».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Вовачка 3». Камедыйны серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.35** «Такі лёс».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Мастацкі фільм «Таткі».
**22.00** «Глядзець усім!».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Тэрыторыя памылак».
**00.25** «Вялікая гульня». Покер.
**01.10** Мастацкі фільм «Не адступаць і не здавацца».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Шпік без ліцэнзіі» (Расія).
**10.15** Капейка ў капейку.
**10.50** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**12.50** Я хачу гэта ўбачыць!.
**13.25** Вышэй за дах.
**14.00** Моладзевы серыял «Як я сустрэў вашу маму» (ЗША).
**14.30** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**16.00** Вось дык так!
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.50** Мастацкі фільм «Сакрэтныя матэрыялы. Барацьба за будучыню».
**21.00** КЕНО.
**21.15** Тэлебарометр.
**21.20** Рэаліці-шоу «Хачу ў тэлевізар».
**21.50** Рэпарцёр.
**22.45** Футбол.Еўра-2016. Кваліфікацыя. Македонія - Беларусь.
**00.40** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**01.35** Футбол.Еўра-2016. Агляд.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.15** «Дабрананак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** Калейдаскоп.
**08.10** «Дзівосная знаходка, ці Самыя звычайныя цуды». Фільм-казка (СССР, 1986 г.).
**09.15** «Франка». Любоўная драма (Беларусь,1990 г.).
**10.50** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**11.15** «Чалавек-амфібія». Фантастычная меладрама. 3-я і 4-я серыі (Расія, 2004 г.).
**12.45** «Вялікі. Біяграфія тэатра». 80-гадовая гісторыя Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі.
**13.25** Калейдаскоп.
**13.35** «Сіла веры».
**14.05** «Аўтограф». Інструментальнае трыа «Лірыца» Гомельскай філармоніі.
**14.30** «Чыпаліна». Мультфільм.
**15.10** «Навукаманія». Беларускія біягенетычныя тэхналогіі.
**15.35** «Гваздзік». Біяграфічная драма (Японія, 2011-2012 гг.).
**16.05** Юбілейны канцэрт Аркадзя Берына.
**17.30** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**18.00** «Дзівосная знаходка, ці Самыя звычайныя цуды». Фільм-казка (СССР, 1986 г.).
**19.05** Калейдаскоп.
**19.15** «Дзень поўні». Драма (Расія, 1998 г.).
**20.45** «Калыханка».
**21.05** «Цырымонія». Псіхалагічная драма (Францыя, Германія,1995 г.).
**22.55** «Квенцін Таранціна. Прафесійны кінахуліган». Дакументальны фільм пра творчасць культавага амерыканскага рэжысёра.
**23.30** Калейдаскоп.

### 5 БЕЛАРУСЬ

**05.30** Фігурнае катанне. Чэмпіянат свету. Спартыўныя танцы. Адвольная праграма. Прамая трансляцыя.
**08.30** PRO спорт. Навіны.
**09.00** Хакей. КХЛ. Фінал Заходняй канферэнцыі. Першы матч.
**10.55** Баскетбол. НБА. «Мілўокі» - «Індыяна».
**12.45** Свет англійскай Прэм'ер-лігі.
**13.15** Фактар сілы.
**13.50** Піт-стоп.
**14.20** Фігурнае катанне. Чэмпіянат свету. Спартыўныя танцы. Адвольная праграма.
**16.25** Хакей. КХЛ. Фінал Усходняй канферэнцыі. Першы матч. Прамая трансляцыя.
**18.55** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. Фінал. Пяты матч. «Шахцёр» (Салігорск) - «Юнацтва» (Мінск). Прамая трансляцыя.
**21.05** Гандбол. SEHA-ліга. Фінал чатырох. Першы паўфінал.
**22.30** Гандбол. SEHA-ліга. Фінал чатырох. Другі паўфінал. Прамая трансляцыя.
**00.10** Еўрапейскі покерны тур.
**01.00** Футбол. Еўра-2016. Кваліфікацыя. «Македонія» - «Беларусь».
**03.05** Баскетбол. НБА. «Мілўокі» - «Індыяна». Прамая трансляцыя.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Два на два (тэледыскусія).
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.20** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.45** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**11.15** «Небяспечны архіў. Рэабілітацыя», дак. фільм.
**11.55** «Сталін. Чаму б і не?», дак. фільм.
**12.10** Студыя «Белсат».
**12.35** Два на два (тэледыскусія).
**13.10** Студыя «Белсат».
**15.30** Рэпартэр.
**15.55** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**16.25** «Пражская вясна», дакументальна-пастановачны фільм.
**18.05** 54 % (публіцыстычная праграма).
**18.30** Студыя «Белсат».
**18.55** Маю права (юрыдычная праграма).
**19.15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Беларускія землі ў складзе Расейскай імперы.
**19.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**19.35** Студыя «Белсат»: Свет.
**19.50** Студыя «Белсат»: Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.10** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.35** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.50** Студыя «Белсат»: Дэвайс.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.50** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**22.30** «Вар'яцкая любоў: расейцы і Пуцін», дак. фільм, 2015 г., Польшча.
**23.20** «Дом», серыял.
**00.45** Студыя «Белсат».

## 28 САКАВІКА, СУБОТА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**05.35** Існасць.
**06.05** Авантурная меладрама «Зімовае танга» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**09.00** Навіны.
**09.10** Клуб рэдактараў.
**09.50** Кулінарная дыпламатыя.
**10.20** Лірычная камедыя «Як выйсці замуж за мільянера» (Расія).
**11.25** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**12.00** Навіны.
**12.10** Дача.
**12.45** Гісторыі рамонту.
**13.15** «Здароўе». Ток-шоў.
**13.50** «Вялікая розніца». Парадыйнае шоў (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.35** Меладрама «Самая Прыгожая» (Расія). 1-я - 4-я серыі.
**19.00** «Я магу!» Народнае шоу. Паўфінал.
**21.00** Панарама.
**21.40** «Я магу!» Народнае шоу. Падвядзенне вынікаў.
**21.50** Мастацкі фільм «Берагі кахання».
**23.40** Лірычная камедыя «Як выйсці замуж за мільянера» (Расія).
**00.35** Дзень спорту.
**00.45** «Вялікая розніца». Парадыйнае шоў (Расія).

### Н

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі». Новыя прыгоды.
**09.25** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Ідэальны рамонт».
**12.05** «Разумніцы і разумнікі».
**12.50** «Інакенцій Смактуноўскі. За гранню розуму».
**13.50** «Таямніцы палацавых пераваротаў. Тэстамэнт імператрыцы». Мастацкі фільм.
**15.20** Насмяшы коміка.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Формула кахання». Мастацкі фільм.
**16.50** «100 мільёнаў».
**19.00** «Каўказская палонніца, ці новыя прыгоды Шурыка». Мастацкі фільм.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Сёння вечарам.
**23.05** АНТ прадстаўляе: «Легенды Life».
**23.50** Што? Дзе? Калі?.

### ТВ

**06.15** Мастацкі фільм «Таткі».
**07.45** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**08.40** «Прыгоды дылетанта».
**09.10** СТВ прадстаўляе: інтэлект-шоу «Разумней не прыдумаеш».
**10.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**11.15** «Мінск і мінчане».
**11.35** Гэта мой дом!.
**12.05** «Прыгоды Шэрлака Холмса і доктара Ватсана: сабака Баскервіляў». СССР, 1980г.



**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** «Вам і не снілася».
**14.30** «Дакументальны праект».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** Канцэрт Міхаіла Задорнава.
**18.20** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** «Я - легенда». Мастацкі фільм.
**22.00** «Зорны рынг».
**23 15 Зорныя шэпты.**
**00.55** «Прыгоды Шэрлака Холмса і доктара Ватсана: сабака Баскервіляў». СССР, 1980г.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.05** «Кошкі-мышкі» Мастацкі фільм.
**08.55** Беларуская кухня.
**09.30** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**10.20** Навуковае шоу прафесара Адкрывашкіна.
**10.50** Анімацыйны серыял «Пінгвіны з Мадагаскара» (ЗША).
**11.45** Тэлебарометр.
**11.50** Хачу ў тэлевізар.
**12.55** Капейка ў капейку.
**12.30** «Экстрасэнсы вядуць расследаванне». Містычнае шоў (Расія).
**13.45** Вось дык так!.
**14.20** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**16.50** «У чэрвені 41-га ...» Мастацкі фільм.
**21.00** Спортлато 6 з 49.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Тэлебарометр.
**21.15** «Дзённікі беларускага падполля». Дакументальны фільм.
**21.50** «Заўтра была вайна». Мастацкі фільм.
**23.35** Перазагрузка.
**00.15** «Ціхая застава». Мастацкі фільм.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.40** Калейдаскоп.
**07.50** «Чараўнік Лала». Фільм-казка (Венгрыя, 1981 г.).
**09.00** Да 70-годдзя Вялікай Перамогі»: «Шчыт і меч». Ваенна - прыгодніцкі фільм. 1-я - 4-я серыі (СССР-ГДР, 1968 г.).
**14.30** Калейдаскоп.
**14.40** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**15.10** «Дзень поўні». Драма (Расія, 1998 г.).
**16.40** Калейдаскоп.
**16.50** Сустрэчы на Чырвонай, 4. Дзмітрый Смольскі.
**18.00** «Дыя@блог P.S.».
**18.25** «Выхаванне жорсткасці ў жанчын і сабак». Драма. 1-я і 2-я серыі (Расія, 1992 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.00** «Багема». Музычная драма (ЗША, 2005 г.).
**23.15** «Раман з лёсам». Спыніся і глядзі. Дакументальны фільм пра лёс вядомага фотамастака Георгія Тэр-Аванесава.
**23.40** Калейдаскоп.

### 5 БЕЛАРУСЬ

**05.00** PRO спорт. Навіны.
**05.25** PRO спорт. Навіны.
**05.30** Фігурнае катанне. Чэмпіянат свету. Адвольная праграма. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**09.30** Мастацкая гімнастыка. Кубак свету. Лісабон.
**12.45** Фігурнае катанне. Чэмпіянат свету. Адвольная праграма. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**16.55** Хакей. КХЛ. Фінал Заходняй канферэнцыі. Другі матч. Прамая трансляцыя.
**19.20** Фігурнае катанне. Чэмпіянат свету. Адвольная праграма. Жанчыны.
**22.05** Піт-стоп.
**22.35** Еўрапейскі покерны тур.
**23.30** Тэніс. Турнір ВТА. Маямі. Прамая трансляцыя.
**02.35** Баскетбол. НБА. «Бруклін» - «Кліўленд». Прамая трансляцыя.
**03.05** Баскетбол. НБА. «Чыкага» - «Нью-Ёрк». Прамая трансляцыя.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Маю права (юрыдычная праграма) .
**07.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Беларускія землі ў складзе Расейскай імперы.
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.20** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**11.00** Казкі для дзетак.
**11.45** «У сэрцы пракаветнай пушчы», дак. серыял.
**12.15** Два на два (тэледыскусія).
**12.50** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**13.15** «Басовішча-2008»: канцэрт гурта «Neuro Dubel».
**14.00** «Пражская вясна», дакументальна-пастановачны фільм.
**15.40** «Дом», серыял.
**17.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Беларускія землі ў складзе Расейскай імперы.
**17.10** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**17.40** Беларусы ў Польшчы.
**17.55** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**18.25** «Час гонару. Паўстанне», серыял.
**19.15** «Mad Men. Утрапёныя IV», серыял.
**20.05** Мова нанова: «Трасянка».
**20.25** «Таямніца следства. P.S.», дак. фільм.
**21.00** Студыя «Белсат».
**21.10** Людскія справы.
**21.45** «Цырк «Каламбія», драма.
**23.40** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**00.09** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**00.40** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**01.10** Студыя «Белсат».

TV

## 29 САКАВІКА, НЯДЗЕЛЯ

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.35** Мастацкі фільм. «Вакзал для дваіх».
**08.50** Слова Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча.
**09.00** Навіны.
**09.10** «Арсенал». Праграма пра армію.
**09.40** XXL WOMAN TV. Жаночы часопіс.
**10.15** Лірычная камедыя «Як выйсці замуж за мільянера» (Расія).
**11.20** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**12.00** Навіны.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.05** Таямніцы следства.
**13.35** Каробка перадач.
**14.20** Беларусь LIFE.
**14.45** Нашы.
**15.00** Навіны.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Вакол планеты.
**16.15** Тэлефільм АТН цыклу «Вялікі рэпартаж».
**16.45** Выхад ёсць.
**17.20** Мастацкі фільм «Цёмныя лабірынты мінулага».
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.15** М Мастацкі фільм «Нявеста майго жаніха».
**00.10** Лірычная камедыя «Як выйсці замуж за мільянера».

### Н

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.45** «Фазэнда».
**11.20** «Ералаш».
**11.30** «Брэйн-рынг».
**12.40** Тэорыя змовы.
**13.40** «Голас. Дзеці».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Першая сусветная».
**17.10** «Рыхт-у-рыхт».
**20.00** Контуры.
**21.05** КВЗ. Вышэйшая ліга.
**23.15** «Ідэальнае спатканне».
**00.10** «27 вяселляў». Мастацкі фільм.

### ТВ

**05.45** «Студэнты International». Серыял. Заключныя серыі.
**07.10** «Сардэчна паскардзіцца».
**07.30** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**08.00** Фільм «Пяты элемент». Францыя, 1997 г.



**10.15** «Чыстая праца».
**11.00** «Вялікі сняданак».
**11.40** Фільм «Тры таполі на Плюшчысе». СССР, 1967 г.
**13.10** «Дарагая перадача».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** «Добры дзень, доктар».
**14.15** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**17.20** «Ваенная таямніца».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Махляры». Германія - ЗША, 2002 г.
**22.30** «Дакументальны праект».
**00.15** Фільм «Тры таполі на Плюшчысе». СССР, 1967г.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**06.00** «Студэнты International». Серыял.
**07.10** «Сардэчна паскардзіцца».
**07.30** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**08.20** «Я - легенда». Мастацкі фільм.
**10.15** «Чыстая праца».
**11.00** «Вялікі сняданак».
**11.40** «На 10 гадоў маладзейшы».
**12.05** «Прыгоды Шэрлака Холмса і доктара Ватсана: сабака Баскервіляў». СССР, 1980 г.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** «Добры дзень, доктар».
**14.15** «Тэрыторыя памылак «.
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**17.20** «Ваенная таямніца».
**19.30** «Тыдзень».
**20.25** «Апантанасць». Мастацкі фільм.
**22.55** «Дакументальны праект».
**00.00** Масква. Дзень і ноч.
**00.55** «Прыгоды Шэрлака Холмса і доктара Ватсана: сабака Баскервіляў». СССР, 1980г.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.50** Калейдаскоп.
**08.00** «Выхаванне жорсткасці ў жанчын і сабак». Драма. 1-я і 2-я серыі (Расія, 1992 г.).
**10.15** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Паліна Рэспубліка.
**10.55** «Наперад у мінулае».
**11.25** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**12.15** Калейдаскоп.
**12.25** «Лёс гігантаў».»Рыжская аўтобусная фабрыка».
**12.55** «Раман з лёсам». Спыніся і глядзі. Дакументальны фільм пра лёс вядомага фотамастака Георгія Тэр-Аванесава.
**13.20** «Цырымонія». Псіхалагічная драма (Францыя, Германія, 1995 г.).
**15.10** «Персона». Максім Аверын. Часткі 1-2.
**15.40** Сустрэчы на Чырвонай, 4. Ірэн Катвіцкая.
**16.40** Калейдаскоп.
**16.50** «Пітэр Пэн». Фантазійная меладрама (Аўстралія-США-Вялікабрытанія, 2003 г.).
**18.30** «Культпрасвет».
**19.05** «Пяць вечароў». Драма (СССР, 1978 г.).
**20.45** «Калыханка».
**21.05** Творчы вечар народнага артыста Расіі Сяргея Бязрукава.
**22.05** «Культпрасвет».
**22.40** «Чырвонае лісце». Гістарычная драма (СССР, 1958 г.).
**00.10** «Разам з ім». Заснавальнік беларускага мастацкага кінематографа - кінарэжысёр Уладзімір Корш-Саблін.
**00.40** Калейдаскоп.

### 5 БЕЛАРУСЬ

**08.00** PRO спорт. Навіны.
**09.00** Фігурнае катанне. Чэмпіянат свету. Паказальныя выступленні. Прамая трансляцыя.
**12.00** Мастацкая гімнастыка. Кубак свету. Лісабон.
**14.25** Хакей. КХЛ. Фінал Усходняй канферэнцыі. Другі матч. Прамая трансляцыя.
**16.55** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. Фінал. Шосты матч. «Юнацтва» (Мінск) - «Шахцёр» (Салігорск). Прамая трансляцыя.
**19.05** Гандбол. SEHA-ліга. Фінал чатырох.
**20.35** Тэніс. Турнір ВТА. Маямі. Прамая трансляцыя.
**22.05** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Відэачасопіс.
**22.35** Баскетбол. НБА. «Бруклін» - «Лэйкерз». Прамая трансляцыя.
**00.55** Тэніс. Турнір ВТА. Маямі. Прамая трансляцыя.
**02.00** Фактар сілы.
**02.30** Тэніс. Турнір ВТА. Маямі. Прамая трансляцыя.
**04.30** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.10** ПраСвет.
**07.45** Казкі для дзетак.
**08.25** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**09.00** «Таямніца следства. P.S.», дак. фільм.
**09.30** Беларусы ў Польшчы.
**09.45** Два на два (тэледыскусія).
**10.15** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.45** Казкі для дзетак.
**11.30** «Тры шалёныя нулі», тэлесерыял.
**12.00** Мова нанова: «Трасянка».
**12.15** 54 % (публіцыстычная праграма).
**12.40** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**13.15** «Mad Men. Утрапёныя IV», серыял.
**14.05** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**14.30** «Вар'яцкая любоў: расейцы і Пуцін», дак. фільм.
**15.20** «Цырк «Каламбія», драма.
**17.15** «Падарожжа на Далёкі Усход: з Берліну ў Токіа», дак. серыял: ч. 2: «Праз Іран і Туркменістан».
**18.10** Людскія справы.
**18.40** «Час гонару. Паўстанне», серыял.
**19.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.50** Гісторыя пад знакам Пагоні: Ян Чачот.
**20.05** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.35** «Забытыя ў Пхеньяне», дак. фільм, 2013 г., Вялікабрытанія.
**21.35** Кінаклуб: «Для Элен».
**21.45** «Для Элен», маст. фільм, 2012 г., Францыя.
**23.20** «Няскораная», дак. фільм: ч. 1, 2.
**00.25** «Mad Men. Утрапёныя IV», серыял.

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____________
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____________

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 4500 руб., аднаго месяца — 18000 руб.
**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**

Новы час novychas.info
**Для тых, хто прымае рашэнні!**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ________
Всего ________

Кассир




# Новая Ліга

Алег НОВІКАЎ

**На авансцэну італьянскай палітыкі імкліва вяртаецца сепаратысцкая партыя «Ліга Поўначы», што нясе з сабой пагрозу грэчаскага сцэнару.**

Крызіс кабінету Сільвіа Берлусконі ў 2011 годзе прывёў таксама да стагнацыі ў лагеры яго саюзнікаў, сярод іншага адбіўся на рэйтынгах партыі «Ліга Поўначы», што выступае за федэралізацыю, у рамках якой багатая Поўнач павінна стаць асобнай адміністратыўнай адзінкай. Дадатковую адмоўную ролю для "Лігі Поўначы" тады згуляў крызіс кіраўніцтва. У 2012 годзе крэсла партыйнага правадыра, таксама не без гучных абвінавачанняў у карупцыі, пакінуў яе заснавальнік Умберта Босі. Шмат хто з мясцовых інтэлектуалаў уздыхнуў тады з палёгкай — пагроза італьянскаму дзяржаўнаму адзінству засталася ў мінулым. Увогуле, у Італіі тады пачыналася эпоха левых, самымі раскручанымі прадстаўнікамі якой з'яўляюцца сатырык Бепе Грыла (лідар «Руху пяці зорак») і цяперашні прэм'ер Матэа Рэнцi ад левацэнтрысцкай Партыі дэмакратаў.

Але эпоха левых можа надоўга не зацягнуцца. Не прайшло і пяці гадоў, як «Ліга Поўначы» вяртаецца ў вялікую палітыку. За плячыма «Лігі Поўначы» ўжо шэраг рэзанансных поспехаў на мясцовых выбарах, і гэта, як прызнаюць усе, толькі пачатак. Сваёй рэстаўрацыяй «Ліга Поўначы» шмат у чым абавязаная новаму лідару Матэа Сальвіні. Сальвіні нарадзіўся ў 1973 годзе і пачынаў кар'еру ў моладзевай секцыі "Лігі Поўначы", працуючы адначасова ў партыйным штотыднёвіку і на партыйным радыё. Рубежнай падзеяй у яго біяграфіі, напэўна, стала выхадка ў 1989 годзе, калі ён запусціў алівай у аднаго з лідараў італьянскіх левых падчас нейкага публічнага мерапрыемства. Гэта каштавала 15-гадоваму актывісту месяца турмы, але зрабіла яго імя вядомым сярод функцыянераў «Лігі Поўначы». Такога кшталту дробнае хуліганства — увогуле частка палітычнага стылю Матэа, якога папарацы часта лавілі падчас нейкіх экстрэмісцкіх акцый.

Так ці інакш, Матэа стаў еўрадэпутатам, пасля дэпутатам рэгіянальнага парламенту і г.д. Нарэшце, са снежня 2013 года, Сальвіні ўзваліў на свае плечы цяжар генсека партыі пасля таго, як перамог на з'ездзе самога Умберта Босі, атрымаўшы 82 працэнта галасоў.

У сваім першым выступе ў якасці старшыні Матэа заявіў пра стратэгічны разварот у дзейнасці партыі. Сальвіні бачыць свой праект значна больш глабальным, чым яго папярэднікі. Калісці культавы дэвіз «Лігі Поўначы» «Roma ladrona, la Lega non perdona» («Рым крадзе,а Ліга не даруе!») пакладзены на архіўную паліцу. Новая «Ліга Поўначы» цяпер пазіцыянуе сябе як агульнанацыянальная партыя. У партыйнай прапагандзе галоўнымі пудзіламі становяцца не рымскія карумпаваныя бюракраты, а Брусэль і еўразона.

**Паводле ўсіх апошніх сацапытанняў, Сальвіні — другі самы папулярны палітык у Італіі пасля Матэа Рэнцi. І пакуль няма адзнак таго, што «лепенізацыя» італьянскай правай сцэны прыпыніцца**

Адначасова новая «Ліга Поўначы» становіцца больш актыўнай на розных узроўнях еўрапейскай палітыкі. Пачынаюцца сталыя кансультацыі з французскай правай папулісцкай партыяй «Нацыянальны фронт», а выбарчы рэкламны праспект "Лігі Поўначы" дапаўняе патрабаванне — «Стварэнне Еўропы радзім, а не чыноўнікаў». Падабенства стылю і лексікону Марын Ле Пэн і Матэа Сальвіні натхніла журналістаў французскай газеты «Le Monde» назваць Матэа «Італьянскай кухняй Марын».

Праўда, як рацыянальны палітык, Сальвіні не выкідвае на сметнік і старыя рэгіяналісцкія лозунгі. Так, у мінулым годзе ён патрабаваў правядзення рэферэндуму аб абвяшчэнні правінцыі Ламбардыя незалежнай дзяржавай, якая будзе свабодна асацыяваная ў склад італьянскай рэспублікі.

Безумоўна, атмасфера прагілгага эканамічнага крызісу, ахвярай якога з'яўляецца Італія, дазваляе Сальвіні лёгка знайсці спажывальніка сваіх радыкальных канцэптаў. Аднак самае незвычайнае ў тым, што апошнім часам «Ліга Поўначы» пачала абыходзіць па рэйтынгах усе правыя праекты на Апенінах, у тым ліку «Forza Italia» — партыю Сільвіа Берлусконі.

Першы званок прагучаў у лістападзе мінулага года на мясцовых выбарах у правінцыі Эмілія-Раманья, якая лічыцца гістарычным электаральным феодам камуністаў і іншых левых. Ліга выступіла вельмі прыстойна, атрымаўшы 19 працэнтаў галасоў. Праўда, для шмат каго галоўным сюрпрызам стаў заўважны разрыў паміж вынікамі партыі Сальвіні і партыяй Берлусконі, якая атрымала толькі крыху больш за 8 працэнтаў.

Паводле ўсіх апошніх сацыялагічных апытанняў, Сальвіні — другі самы папулярны палітык у Італіі пасля Матэа Рэнцi. І пакуль на гарызонце няма ніякіх адзнак таго, што «лепенізацыя» італьянскай правай сцэны прыпыніцца.

Захапленне фігурай Сальвіні, безумоўна, з'яўляецца нейкім персанальным выклікам Берлусконі, які, нягледзячы на турэмны тэрмін, калі верыць італьянскай прэсе, актыўна займаецца рэканструкцыяй правай апазіцыі. У яго класічнай схеме традыцыйна экстрэмісцкая паводле рыторыкі «Ліга Поўначы» павінна выступаць малодшым партнёрам у альянсе з больш адэкватнай у вачах сярэдняга класа партыяй «Forza Italia». Такая эквілібрыстыка іміджаў апазіцыі дазваляла ёй разлічваць на шырокі спектр падтрымкі. Аднак цяпер, з улікам імклівага росту інтарэсу да «Лігі Поўначы», старая формула наўрад ці спрацуе.

Ад пытання, ці здольны Берлусконі аднавіць сваё лідарства ў вачах правага электарату, залежаць перспектывы развіцця ўсяго італьянскага палітычнага працэсу. У выпадку працягу росту дамінавання на правым флангу "Лігі Поўначы", краіне пагражае грэчаскі сцэнар, з той, аднак, розніцай, што ў Грэцыі маладыя радыкалы захапілі левы фланг прад тым, як прыйшлі да ўлады пад банерамі кааліцыі «SYRIZA». Пакуль што палітолагі скептычна ацэньваюць шанцы Кавалера (мянушка Берлусконі) паставіць маладога Матэа на месца. Берлусконі — гэта, так ці інакш, палітык, які заўсёды шукаў легітымізацыю сваіх крокаў у антыкамуністычнай традыцыі. Для большасці правых маладых выбаршчыкаў абстрактны цяпер камунізм — значна меншае зло, чым нелегальная міграцыя або палітыка дыктату Брусэля, на выкрыванні чаго і спецыялізуецца Сальвіні.

Але пакуль праблематыка лідарства Сальвіні сярод правых толькі трапіла ў палітычную павестку дня, і таму любыя версіі развіцця падзей не выключаюцца.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Беларусь не хоча танна пастаўляць у Расію абяцаны бензін. У адказ Расія можа скараціць бяспошлінныя пастаўкі нафты Беларусі. Пачынаецца покер. Без расійскай таннай нафты ў Беларусі хутка скончацца фінансавыя рэсурсы для падтрымкі валюты, а ў прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі ў гэтым годзе выбары. Расія ж палітычна залежыць ад сяброўства з Беларуссю: у мінулым годзе Лукашэнка прымусіў Расію прыняць амаль усе яго ўмовы ўступлення ў ЕАЭС.

**«Ведомости» (Расія)**

У Ватыкане пацвердзілі жаданне Папы Францыска прыехаць у Беларусь. Больш за тое, Аляксандра Лукашэнку афіцыйна чакаюць у Ватыкане, так што Каталіцкая царква прапануе гэтаму лідару чарговую магчымасць выхаду з ізаляцыі (у 2009 годзе беларускі прэзідэнт наведваў Бенедыкта XVI у Ватыкане). Па сцвярджэнні дзяржсакратара царкоўнага дзяржавы, Папа Францыск гатовы ўзяць на сябе ролю пасярэдніка паміж Мінскам і Захадам. Калі гэты праект будзе рэалізаваны, Папа зможа стаць уплывовай фігурай на постсавецкай прасторы.

**«Независимая газета» (Расія)**

Разумеючы зацікаўленасць беларускіх уладаў у спрашчэнні візавага рэжыму як першым кроку на шляху рэальнага паляпшэння адносін з ЕС, Брусэль можа выкарыстоўваць гэта імкненне, каб дамагчыся кампрамісаў ад Мінска. У першую чаргу, ад урада Беларусі могуць запатрабаваць дэмакратызацыі будучых прэзідэнцкіх выбараў. Вакол гэтага можа ісці пэўны гандаль.

**«Deusche Welle» (Германія)**

У цэлым, Лукашэнка спрабуе максімальна разыграць «украінскую карту» для сябе з мэтай змякчэння адносінаў з Захадам. Гэта не што іншае, як страхаванне рызык на выпадак хуткага пагаршэння сітуацыі ў Расіі. Відавочна, што Лукашэнка цалкам дапускае такі сцэнар і спрабуе стварыць сабе запасны выхад у выпадку калапсу пуцінскага рэжыму. Але знаходзіцца ў пастаяннай геапалітычнай расцяжцы, асабліва пры абвастрэнні супрацьстаяння паміж Расіяй, ЗША і Еўропай, у Мінска не атрымаецца. Тады трэба будзе здзейсніць канчатковы выбар. Далёка не факт, што ён будзе на карысць Масквы. Хто ведае, можа ў недалёкай будучыні Беларусь зможа ўвайсці ў новую геапалітычную інкарнацыю Вялікага Княства Літоўскага на прасторах ад Балтыйскага да Чорнага мора.

**«Politica-ua» (Украіна)**

Размарожванне адносінаў паміж Вашынгтонам і Мінскам, што назіраецца апошнім часам, хутчэй за ўсё, стала вынікам агрэсіўнай палітыкі Масквы ў адносінах да постсавецкіх суседзяў. Замест ажыццяўлення адной са сваіх галоўных мэтаў — аб'яднання славян і еўразійцаў вакол Расіі, дзеянні Уладзіміра Пуціна паўплывалі на стаўленне былых рэспублік СССР да інтэграцыі з Масквой. З-за падзей ва Украіне нават самыя верныя рэгіянальныя партнёры Расіі сталі сур'ёзна задумвацца аб альтэрнатывах у сваёй знешняй палітыцы.

**«Voice of America» (ЗША)**

У бліжэйшы год, па меншай меры, да восеньскіх выбараў прэзідэнта, дзяржрэгуляванне ў краіне не зменіцца. Прагнозы лібералаў пра надыходзячы «сацыяльны майдан» эксперты лічаць перабольшаннем, і не толькі таму, што Лукашэнка анансаваў жорсткае падаўленне падобных з'яў, а насельніцтва краіны, гледзячы на Украіну, не жадае і думаць аб масавых пратэстах. Справа ў тым, што мяжа Беларусі — перш за ўсё з Расіяй — адкрытая. А там яшчэ ёсць працоўныя месцы. Значыць, беларусам пакуль ёсць куды накіроўваць пар залішняй працоўнай сілы.

**«Росбалт» (Расія)**

20 сакавіка 2015 | № 11 (428) Новы час

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ПОЛЬШЧА. Расце папулярнасць эротыкі

Польскія кансерватары ў шоку. У Польшчы — адным з бастыёнаў каталіцызму, усе рэкорды пабіў эратычны фільм «50 адценняў шэрага». Па-першае, пабіты рэкорд па колькасці наведвальнікаў у першы ўік-энд кінапракату — 830 тысяч чалавек, што прынесла пракатчыкам каля 17 мільёнаў злотых. Гэты факт кансерватыўная грамадскасць яшчэ неяк можа прыняць, паколькі прэм'ера стужкі адбылася 14 лютага, у дзень закаханых. Значна больш рэтраградаў хвалюе тое, што фільм зрабіў касу ў малых кінатэатрах, якія часта належаць мясцовым камунам, дзе моцны ўплыў Касцёла. Тут, нягледзячы на крытыку фільму з боку ксяндзоў, таксама пастаўлены рэкорд па колькасці гледачоў. На думку спецыялістаў, поспех кінаэротыкі адчыняе рынак для прадукцыі Галівуду (раней у польскай правінцыі глядзелі, як правіла, дакументалістыку пра Папу Яна Паўла або польскую рамантычную кінакласіку).

**Паводле польскай прэсы**

### ТУРКМЕНІЯ. Грамадзянам дазволілі мітынгаваць

Прэзідэнт Туркменістана Гурбангулы Бердымухамедаў падпісаў закон, які дазваляе насельніцтву праводзіць у краіне масавыя мерапрыемствы — сходы, мітынгі, дэманстрацыі, вулічныя шэсці, пікетаванне. Закон падаецца вельмі дзіўным з улікам таго, што свабода сходаў, мітынгаў, дэманстрацый гарантуецца асобным артыкулам Канстытуцыі Туркменістана. Згодна з падпісаным законам, арганізатарамі масавага мерапрыемства могуць выступіць адзін або некалькі паўналетніх грамадзян Туркменістана, якія пастаянна пражываюць у краіне, а таксама палітычныя партыі, грамадскія аб'яднанні і рэлігійныя арганізацыі. Асабліва падкрэсліваецца, што незарэгістраваным партыям праводзіць публічныя мерапрыемствы забаронена. Паколькі ўсе апазіцыйныя партыі ў краіне пад забаронай, гэта значыць, што на палітычны працэс новае заканадаўства не паўплывае. Тым не менш, туркменскі закон пра масавыя мерапрыемствы фрагментарна больш дэмакратычны за беларускі аналаг. Закон дазваляе кожнаму грамадзяніну Туркменіі праводзіць адзіночны пікет, на які не патрабуецца дазволу, што для беларусаў немагчыма.

**Паводле ўзбекскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Мова і выбары

Прэзідэнцкія выбары ў Казахстане, прызначаныя на 26 красавіка, увайшлі ў незвычайную фазу, калі прэтэндэнты ў кандыдаты павінны прайсці іспыт на веданне мовы тытульнай нацыі. Без даведкі пра веданне казахскай мовы палітыкаў не дапускаюць да наступнага этапу, калі можна збіраць подпісы. Падчас іспыту кандыдат павінен выканаць пісьмовае заданне на тэму, прапанаваную лінгвістычнай камісіяй, аб'ёмам не больш за дзе старонкі; прачытаць фрагмент прапанаванага камісіяй тэксту аб'ёмам не больш за тры старонкі; выступіць публічна на зададзеную тэму на працягу не менш за 15 хвілін. На сённяшні момант лінгвісты ўжо «завалілі» шэсць прэтэндэнтаў, што ў чарговы раз выклікала падазрэнне, што камісія дэ-факта працуе як фільтр супраць нелаяльных палітыкаў. Адзін з палітыкаў, які праваліў іспыт, кажа, што яго прымусілі здаць пісьмовую працу за 10 хвілін да заканчэння іспыту. Між тым, праўладны камуніст, які вельмі кепска размаўляе па-казахску, атрымаў ад лінгвістаў за іспыт пяць балаў. Не зразумела, як здаваў іспыт сам Назарбаеў: як толькі афіцыйная партыя выставіла яго кандыдатам, адразу лінгвістычная камісія заявіла, Нурлсутан цудоўна валодае казахскай мовай.

**Паводле казахскай прэсы**

### ЗША. Пінг-понгавая дыпламатыя

Паводле амерыканскай прэсы, адміністрацыя Абамы ўзяла на ўзбраенне спадчыну Рычарда Ніксана, які для нармалізацыі адносін з Маа даслаў у Кітай зборную ЗША па настольным тэнісе. Пад выглядам удзельнікаў амерыканскай каманды працавалі дыпламаты, якія рыхтавалі гістарычны візіт Ніксана 1970 года, што прывёў да нармалізацыі амерыкана-кітайскіх адносін. Нешта падобнае рыхтуецца гэтым летам, калі Кубу наведае славуты футбольны клуб «Cosmos» з Нью-Ёрку. 2 чэрвеня «Cosmos», за які, дарэчы, у свой час ганяў мяч легендарны Пеле, згуляе з футбольнай зборнай Кубы. Відавочна, што матч стане моцным фактарам для стварэння пазітыўнага іміджу ЗША на Кубе. Інтарэс да матчу ўжо зараз велізарны, хаця на Кубе футбол саступае па папулярнасці бейсболу. Цікава, што паездка «Cosmos» — гэта не першая спроба Вашынгтона наладзіць дыялог з Гаванай за кошт гульні ў мяч. У 1978 годзе Кубу наведаў клуб «Chicago Sting», аднак яго візіт не прывёў да прарыву ва ўзаемных адносінах.

**Паводле амерыканскай прэсы**




# Выбары — справа далікатная

Алег НОВІКАЎ

**29 сакавіка Узбекістан у чарговы раз пераабірае на пасаду прэзідэнта Іслама Карымава.**

Уадрозненне ад Беларусі, дзе гарант пазіцыянуе сябе як беспартыйны, яго узбекскі калега не цураецца слова «партыя». Прычым прэзідэнт трымае цэлы гарэм партструктур, адна з якіх перад выбарамі выконвае функцыю «любімай жонкі», атрымліваючы ганаровае права — афіцыйна высунуць Карымава на вышэйшую пасаду ў дзяржаве. Спачатку фаварыткай Карымава была Кампартыя, якую ён прамяняў на Народна-дэмакратычную партыю. Пасля яму спадабалася Нацыянальна-дэмакратычная партыя «Фідакарлар». Гэтым разам Іслам Абдуганіевіч балатуецца ад ліберал-дэмакратаў. Яшчэ правам вылучыць Карымава валодае Сацыял-дэмакратычная партыя Узбекістана «Адалат».

Цяжка зразумець сэнс шматпартыйнасці ў аўтарытарнай краіне, паколькі большая частка насельніцтва партыі не ідэнтыфікуе, а самі арганізацыі пачынаюць актыўнасць толькі падчас выбарчых кампаній.

Там не менш, тыя кандыдаты, якія наважацца стаць апанентамі дзеючага прэзідэнта на выбарах, маюць права сустракацца з працоўнымі калектывамі дзяржаўных прадпрыемстваў і навучальных устаноў. Прычым іх адміністрацыя абавязаная нават забяспечыць масоўку, і ў дадатак вылучыць некалькі чалавек для выступаў. Акрамя таго, абавязковы выступ старшыні мясцовай рэгіянальнай выбарчай камісіі. Асноўны лейтматыў выступаў на «апазіцыйных» акцыях — заклікі прыйсці на галасаванне і прасоўванне ідэі, што правядзенне выбараў на шматпартыйнай і альтэрнатыўнай аснове сведчыць аб тым, што ў краіне захоўваюцца прынцыпы дэмакратыі, а нацыянальная выбарчая сістэма цалкам адпавядае міжнародным нормам.

Прэзідэнцкая кампанія Карымава выгадна дысанансавалі з кампаніямі яго апанентаў. Іслам у гэты час наведваў мерапрыемствы па адкрыцці новых аб'ектаў, зарабляючы сімвалічны капітал. Але гэтым разам усё змянілася. Падчас кампаніі 2015-га 78-гадовы Карымаў мала з'яўляўся на публіцы. Дыялог з электаратам ён кампенсуе абсалютным дамінаваннем у СМІ. Нягледзячы на тое, што ўсім кандыдатам, у адпаведнасці з заканадаўствам, павінна надавацца роўнае права на выкарыстанне СМІ, у рэальнасці гэтага няма. Паводле падлікаў АБСЕ, звычайна падчас прэзідэнцкіх кампаній пра Карымава распавядаюць 80 працэнтаў усіх перадвыбарных сюжэтаў на тэлебачанні.

Фармаванне выбарчых камісій ідзе па закону «Аб Цэнтральнай выбарчай камісіі Рэспублікі Узбекістан», згодна з якім «старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі абіраецца па прадстаўленні прэзідэнта Рэспублікі Узбекістан». Папярэдні старшыня ЦВК — Абдусаломаў — праславіўся тым, што за ўвесь час не даў журналістам магчымасці задаць ні аднаго загадзя не ўзгодненага пытання.

На выбары ва Узбекістане людзей заганяюць так званыя «махалі» — саветы грамадзян, якія займаюцца мясцовымі пытаннямі, і ў тым ліку размяркоўваюць дзяржаўныя сродкі. Менавіта пагроза пазбавіцца нейкіх ільготаў і пайкоў, вымушае узбекаў выконваць свой грамадзянскі доўг. Цяжка сказаць, наколькі яны робяць гэта актыўна, аднак яўка 90 працэнтаў характэрныя для фінальных пратаколаў выбаркамаў. Гэта здзіўляе ўзбекаў, бо вядома, што некалькі мільёнаў грамадзян Узбекістана знаходзяцца на заробках за мяжой. А гэта 12–18 працэнтаў ад агульнай колькасці выбаршчыкаў. Цяжка ўявіць, што ўсе гастарбайтэры на выбары спецыяльна вяртаюцца дадому, каб прыняць удзел у галасаванні. Праўда, ЦВК на гэта прынцыпова ўвагі не звяртае.

Калі верыць сведкам, старшыні выбарчых камісій абавязаныя стаяць каля кабінкі для галасавання і інструктаваць выбаршчыкаў, за каго трэба галасаваць. Вітаецца практыка, калі выбаршчык галасуе за ўсіх сямейнікаў і нават суседзяў. Каб атрымаць бюлетэні для галасавання, дастаткова паказаць запрашэнне. Галасаваць можна не адзін раз. Рэкорд быў пастаўлены на выбарах 2005 года, калі адзін з журналістаў у якасці эксперыменту прагаласаваў на адным і тым жа участку тры разы за дзве гадзіны, пакуль сябры камісіі не западозрылі нейкі падман.

З улікам таго, што ў краіне шмат палітвязняў, асаблівая ўвага надаецца сітуацыі ў месцах зняволення, якія пераводзяць на асаблівы рэжым. У турмах за некалькі дзён да выбараў уводзіцца каранцін на сустрэчы і на перадачы, які цягнецца яшчэ некалькі дзён пасля выбараў. Таксама перад выбарамі пачынае дзейнічаць асаблівы памежны рэжым: зачыняюцца межы з суседнімі краінамі, у прыватнасці, з Таджыкістанам і Казахстанам, а невялікім прыватным гатэлям у турыстычных гарадах Узбекістана загадваюць прыпыніць сваю дзейнасць да заканчэння выбараў.

Вось як праходзяць выбары па-ўзбекску. Хаця, магчыма, выбары 2015 года — апошнія выбары па правілах Карымава. Салідны ўзрост прэзідэнта робіць пытанне пра пераемніка ўсё больш вострым. Рашэнне гэтага пытання, урэшце, будуць вымушаны ўзяць у свае рукі прадстаўнікі яго блізкага атачэння, як гэта было ў суседнім Туркменістане пасля смерці Туркменбашы. Хутчэй за ўсё, пры новым узбекскім гаранце нейкія з апісаных правілаў цяперашняга выбарчага працэсу знікнуць або з'явяцца новыя, хаця сутнасць выбараў дакладна застанецца такой жа.

# Інтрыгі Дома Ле Пэн

Алег НОВІКАЎ

**Марын Ле Пэн рыхтуецца да рашучай бітвы за прэзідэнцтва ў Францыі. А тым часам у яе з'явілася сур'ёзная канкурэнтка — пляменніца Марыён.**




Уся Францыя жыве рэгіянальнымі выбарамі, якія пачнуцца ў гэтую нядзелю і працягнуцца ў наступную. Выбары ўжо зараз можна лічыць гістарычнымі. Яны стануць самымі гендарна роўнымі выбарамі ў французскай гісторыі. Кожная партыя паводле новай рэдакцыі выбарчага кодэксу павінна прапанаваць выбаршчыкам два спісы. Адзін з іх узначальвае мужчына, другі — жанчына. Гэта норма павінна павялічыць прадстаўніцтва жанчын у рэгіянальных саветах. Нягледзячы на рэвалюцыйныя змены, гендарная тэма мала цікавая выбаршчыкам. Стаўка на гэтых выбарах значна большая. Выбары ў дэпартаментах дапамогуць лепш зразумець контуры прэзідэнцкай кампаніі 2017 года, і перш за ўсё высветліць шанцы Марын Ле Пэн, лідара партыі «Нацыянальны фронт» (FN).

Адпаведна апытанням, FN можа разлічваць на 30 працэнтаў галасоў. Галісты і ліберaлы, якія склалі кааліцыю, адстаюць ад партыі Марын прыкладна на 1–2 працэнты. У сацыялістаў, якія фармуюць цяперашні ўрад, каля 20 працэнтаў, і, хутчэй за ўсё, яны страцяць каля 40 дэпартаментаў, якія кантралююць цяпер. Прычына такой сітуацыі — не толькі кепскі стан эканомікі, але і сыход левых партый у апазіцыю да ўраду Франсуа Аланда. У любым выпадку, усе палітолагі прызнаюць, што Марын Ле Пэн удалося давесці да выбаршчыка думку пра тое, што менавіта FN складае рэальную альтэрнатыву партыям левага і правага істэблішменту, якія дыскрэдытавалі сябе за часы знаходжання пры ўладзе.

Натуральна, у Марын, як у кожнага палітыка, хапае праблем. У шэрагу раздражняльнікаў таксама нечаканы інтарэс грамадства да яе пляменніцы — 25-гадовай Марыён Марышаль Ле Пэн, чыя зорка пачынае ззяць усё мацней. Прынамсі, зараз 92 працэнты французаў ужо ведаюць, хто такая Марыён і сочаць за яе кар'ерай. Жоўтая прэса захапляецца тым, як яна апранаецца і паводзіць сябе на публіцы. У правінцыі ёй ужо далі мянушку «Supernova», што можна перакласці як «суперпачатковец».

Інтарэс таблоідаў да Марыён таксама звязаны з тайнай яе біялагічнага бацькі. Афіцыйна бацька Марыён — Самуэль Марышаль, былы муж Ян Ле Пэн — другой дачкі Жан-Мары Ле Пэна, заснавальніка FN. Аднак

**92**

**працэнты французаў ужо ведаюць, хто такая Марыён і сочаць за яе кар'ерай**

на момант нараджэння Марыён ён ужо не жыў з яе маці. Сама Ян Ле Пен упарта адмаўлялася называць імя сапраўднага бацькі дачкі, што штурхала прэсу перыядычна капацца ў сямейнай таямніцы. Нарэшце ў 2012 годзе часопіс «L'Express» заявіў, што сапраўдны бацька Марыён — былы дыпламат Ражэр Ок. У адказ рэдакцыя атрымала ад сям'і іск у суд за ўмяшанне ў прыватнае жыццё. Аднак у верасні мінулага года Ражэр памёр, пакінуўшы пасля сябе ліст, у якім сапраўды прызнаў бацькоўства. Таксама ў перадсмяротным лісце ён напісаў, што сустракаўся пры жыцці з Марыён і рэгулярна дапамагаў дачцэ.

Нават калі б Ражэр сапраўды дапамагаў Марыён, памер дапамогі непараўнальны з той, што аказаў Марыён яе дзед. Ён выдаў унучцы пуцёўку ў вялікую палітыку. Сваю палітычную кар'еру Марыён пачала будаваць яшчэ ў дзіцячым узросце, калі Жан-Мары выкарыстаў яе для палітычнай рэкламы. На плакатах «Нацыянальнага фронту» падчас рэгіянальных выбараў 1992-га была выяўлена 9-гадовая Марыён у абдымках дзеда пад надпісам: «Бяспека важней за свабоды».

Як толькі Марыён споўнілася 18 гадоў, патрэбных у Францыі для балаціроўкі ў дэпутаты, дзед запісаў яе ў партыю і адправіў кандыдатам на камунальныя выбары. Першы блін не атрымаўся камяком — Марыён набрала 6 працэнтаў. У 2010 годзе дзед дабіўся яе прысутнасці ў партыйным спісе «Нацыянальнага фронту» ў адным з рэгіёнаў (за гэта спіс у выніку прагаласавалі 8 працэнтаў). Некаторыя партыйцы тады пратэставалі, але Жан-Мары катэгарычна заявіў: «Ёй (Марыён) трэба вучыцца». Нарэшце ў 2012 годзе, дзякуючы зноў жа патранату дзеда, малады палітык перамагла на адной з акруг у Паўднёвай Францыі і стала самым маладым дэпутатам у гісторыі Французскай рэспублікі, не паспеўшы нават атрымаць універсітэцкі дыплом юрыста.

Яшчэ праз два гады Марыён пачала ўсё гучней заяўляць пра сябе і настолькі асмялела, што паспела пасварыцца з прэм'ер-міністрам у зале парламенту, назваўшы яго «дурнем».

Самая цікавая тэма для прэсы — адносіны паміж пляменніцай і цёткай. Ле Пены не выносяць смецце за межы сям'і, аднак, калі меркаваць па рыторыцы Марыён, яна не цалкам падзяляе думкі цёткі, якая ўсё больш выкарыстоўвае сацыяльна-папулісцкую рыторыку і фліртуе з Пуціным. Марыён, наадварот, лічыць сябе каталічкай, ліберал-кансерватарам і нават прыхільніцай напалеонаўскіх традыцый. Палітолагі пішуць, што яна хутчэй выказвае забабоны прадстаўнікоў сярэдняга класа пра тое, што дзяржава не дае ім цалкам рэалізаваць свой патэнцыял.

З іншага боку, нельга забываць, што Марыён вырасла ў сям'і без бацькі, і менавіта Марын дапамагала сястры выхоўваць дзіця. Акрамя таго, Марыён з'яўляецца чальцом арганізацыі сяброўства «Расія — Францыя», і нават была запрошаная з візітам у Дзярждуму Расіі ў 2012 годзе. Прэса піша, што яна сімпатызуе таму ідэйнаму накірунку, як «новыя правыя», расійскі філіял якога ўзначальвае вядомы апалагет пуцінскай палітыкі Аляксандр Дугін. Іншымі словамі, глебы для ідэалагічных скандалаў паміж роднымі, быццам, і няма.

Нягледзячы на ўсё гэта, калі меркаваць па тону публікацый, французская прэса чакае вялікіх інтрыг сярод чальцоў дому Ле Пэн. І магчыма, гэты падобны на раманы Марыса Друона серыял будзе цягнуцца яшчэ доўга. У верасні мінулага года ў Марыён нарадзілася дачка Алімпія, якая, па словах прэсы, можа працягнуць сямейную палітычную дынастыю.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Гезіне Шван



Старшыня сацыял-дэмакратычнай партыі Германіі падарвала адзінства ўраду, які складаецца з эсдэкаў і кансерватараў і працуе, як вядома, пад кіраўніцтвам канцлера Ангелы Меркель. Лідар эсдэкаў падтрымала патрабаванне Афінаў да Берліну — выплаціць кампенсацыю за наступствы нямецкай акупацыі Грэцыі ў 1941–1944 гадах. Раней грэчаскі ўрад Алексіса Цыпраса патрабаваў кампенсацыі ў памеры 341 мільярд еўра. Першай рэакцыяй нямецкага ўраду стала рашучая адмова весці нейкія перамовы наконт гэтага пытання. Аднак пасля заявы Шван стала відавочна, што кансалідаванага падыходу ў кааліцыянтаў няма. Праўда, няма адзінства і сярод сацыял-дэмакратаў. Так, віцэ-канцлер Зігмар Габрыэль і наменнік старшыні партыі заявілі, што праблема кампенсацыі не можа быць тэмай германа-грэчаскіх кантактаў. На думку экспертаў, Берлін можа пагадзіцца кампенсаваць суму ў эквіваленце 276 мільёнаў рэйхсмарак па курсу 1941 года. Менавіта столькі грэчаскі дзяржаўны банк быў вымушаны заплаціць Берліну ў 1941 годзе за супрацю, якi грэкі аказвалі акупантам. Сама Шван тлумачыць сваю пазіцыю тым, што Германія ў 1940-х гадах сапраўды зрабіла ў Грэцыі шмат кепскіх рэчаў. Толькі ў Афінах падчас вайны ад голаду памерлі 40 тысяч чалавек.

### Рустам Рахмон



27-гадовы сын прэзідэнта Таджыкістана Эмамалі Рахмона атрымаў ад бацькі месца дырэктара Агенцтва па фінансаваму кантролю і барацьбе з карупцыяй. На думку экспертаў, гэта прызначэнне азначае пачатак у Таджыкістане аперацыі «пераемнік». Справа ў тым, што Рустам змяніў за апошнія гады мноства пасад у розных установах — падатковай службе, Мінабароны, камітэце па інвестыцыях, сталічнай мэрыі, Саюзе моладзі. Сэнс такога галопу быў у тым, каб малады палітык атрымаў вопыт дзяржаўнага кіравання і меў сяброў у розных галінах улады — умова таго, што ён зможа ўтрымаць уладу ў свой першы, самы складаны год праўлення. Адзінае, што пакуль не зразумела, калі Рахмон-старэйшы перадасць паўнамоцтвы Рахмону-малодшаму. Вялікая перашкода на гэтым шляху — узроставы цэнз у таджыкскай Канстытуцыі, паводле якога кандыдат на пасаду прэзідэнта павінен быць не маладзейшы за 35 гадоў. Для таго, каб абыйсці закон, давядзецца вынесці на рэферэндум чарговыя канстытуцыйныя папраўкі. Цікава, што да таго, як пайсці галопам у палітыку, Рустам займаўся футболам. На грошы бацькі ім быў створаны футбольны клуб, у якім ён гуляў на пазіцыі цэнтральнага форварда.

### Нікола Стэрджэн



Не выключана, што лідар шатландскай Нацыянальнай партыі (SNP) стане чальцом наступнага ўраду Вялікабрытаніі. Такая верагоднасць узнікла пасля публікацыі апошніх апытанняў выбаршчыкаў у Шатландыі. Паводле іх, у маі, калі адбудуцца выбары, лейбарысты могуць страціць лідарства ў шатландскай палітыцы. Шатландская квота ў брытанскім парламенце складае 59 месцаў з 650. Традыцыйна 40 месцаў у гэтай квоце на выбарах даставалася лейбарыстам. Аднак цяпер партыя лейбарыстаў у Шатландыі катастрафічна саступае нацыяналістам у папулярнасці (27 працэнтаў супраць 42). Калі канвертаваць гэту лічбу ў мандаты, то прадстаўніцтва SNP у Лондане вырасце з 6 да 50 дэпутатаў. Кепскі рэйтынг лейбарыстаў у Шатландыі пахавае іх намер сфармаваць аднапартыйны кабінет. Адзінае выйсце для лейбарыстаў — запрашаць у кааліцыю ліберaлаў і тых самых шатландскіх нацыяналістаў. Што атрымаецца ў выніку, цяжка ўявіць. Не выключана, што нацыяналісты пагодзяцца папросту падтрымаць лейбарыстаў без уваходжання ў кабінет за нейкі пернік — напрыклад, падатковыя льготы для Шатландыі. Аднак, на думку палітолагаў, уваходжанне або неўваходжанне нацыяналістаў у склад ураду не дапаможа яму доўга праіснаваць ва ўмовах нізкай папулярнасці Эда Мілібэнда — лідара лейбарыстаў. Яму сімпатызуюць каля 27 працэнтаў, у той час як лідару кансерватараў Дэвіду Кэмерану — каля 40.

# Дзядзька Рыгор

## ДЗЁННІК ВЫБРАНЫХ СУСТРЭЧ

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 7, 8,10**



Сяргей ШАПРАН

### 2010

**13 лютага.** Генадзь Бураўкін, даведаўшыся, што ў бліжэйшы час убачу дзядзьку Рыгора, прасіў перадаць яму свой «кнігазбораўскі» том з такім дарчым надпісам:

«Дарагому Рыгору Барадуліну, роднаму
па зямлі,
па душы,
па творчасці, —
абдымаючы
Генадзь Бураўкін.

**10.I.2010 г.**

Мы з табой стаім амаль што побач — ты на Бар, а я на Бур. (Памятаеш подпіс на "маладзіку"?)».

**15 лютага.** Удзень патэлефанаваў Міхась Скобла: учора ўвечары ў Барадуліна была тэмпература 40, ён у рэанімацыі з дыягназам «левабаковая пнеўманія з ацёкам лёгкага». Ужо ўвечары ўрачы казалі Валянціне Міхайлаўне, што становішча стабільнае, але цяжкое. Пазней Валянціна Міхайлаўна распавяла, якім менавіта чынам дзядзька Рыгор патрапіў цяпер у бальніцу: ледзь выпісаўся з 10-й бальніцы, ужо ўвечары ў яго паднялася тэмпература. Два дні потым яму было дрэнна, але пасля стала крыху лепш, ён нават прыняў душ, аднак на наступны дзень тэмпература ўвечары была 40,1. Валянціна Міхайлаўна выклікала «хуткую».

### 2011

**8 студзеня.** Быў у Барадуліна, прывёз яму «кнігазбораўскі» том Уладзіміра Някляева. Дзядзька Рыгор пытаўся, ці ёсць навіны пра Някляева? Але апошні раз адвакаты бачылі яго 29 снежня… Барадулін дужа ўважліва слухаў гісторыі, якія былі звязаныя з апошнімі так званымі прэзідэнцкімі выбарамі. Я запытаўся, ці будзе дзядзька Рыгор пісаць ліст Някляеву ў КДБ? Барадулін: «Збіраюся». Я прапанаваў, каб ён напісаў цяпер, а я дашлю. Дзядзька Рыгор падпісаў навагоднюю паштовачку:

«Дарагі Уладзімір!
З Новым годам!
Са сьвятымі калядамі!
Хай у новым годзе будзе вольна табе, мужнаму волату духу!
Усе цябе помняць.
Усе табой захапляюцца!
Трымайся!
Твой Рыгор.
2010».

(Паштоўку я перадаў Някляеву, калі ён быў ужо на свабодзе, у КДБ ж дасылаў ксеракопіі, бо быў перакананы, што Уладзімір Пракопавіч нічога не атрымае. Так яно і сталася — кадэбэшнае сіта пошту да Някляева і ад Някляева не прапускала.)

**21 мая.** Разам з Някляевымі паехалі да Барадуліна. Дзядзька Рыгор быў першы, да каго сабраўся ў госці Уладзімір Пракопавіч пасля вызвалення. Усю дарогу ён быў вясёлы, але крыху знерваваны. Оля распавяла, што сёння ён прачнуўся а пятай раніцы і пабудзіў яе. Ужо пазней, у Барадуліна, казаў: «Вось у цябе старога ўжо пыталіся: "Ты, дзядзька, пражыў даволі вялікае ўжо жыццё — скажы мне, што такое шчасце?" Вось у цябе пыталіся, і ў мяне таксама. Дык я сёння з раніцы зразумеў, што я такое шчасце: гэта калі прачынаешся ў сваёй хаце, і ў ёй няма чужых, ты ў гэтай хаце гаспадар» (казаў так Някляеў таму, што апошнія паўгады пражыў пад хатнім арыштам, калі ўдзень і ўначы яго пільнавалі два кадэбісты).

Дзядзька Рыгор сустракаў на лесвічнай пляцоўцы.

***Барадулін:*** Ой, ой, ой, ой-ё-ё-ё-ёй!

***Някляеў:*** Давай абдымемся. Так ты нармалёва выглядаеш. А ўсе кажуць — састарэў, састарэў! Дзе ты састарэў?!. Рыгор Іванавіч, дазвольце нанесці вам першы афіцыйны візіт пасля афіцыйнай турмы.

***Барадулін:*** Валодзенька, міленькі!..

***Някляеў:*** Ой, Божа мой!

***Барадулін:*** Нас ні вада не разгоніць, ні свіння не разарве.

***Някляеў:*** Ну, пайшлі вып'ем. Даўно мы з табой не выпівалі…

Вядома, гэта была радасная сустрэча. Дзядзька Рыгор найперш указаў на кнігу паэм Някляева, што ляжала на пісьмовым стале. Уладзімір Пракопавіч у адказ: «Гэта ты наўмысна падклаў! Ведаю я цябе! Будзеш ты мае паэмы чытаць! А то сам пісаць не ўмееш, ага!.. Хітры ты, як быў хітры, так хітры і застаўся. Гэтыя вушацкія ўсе такія. Узяў кніжку падклаў, маўляў, ён паэмы Някляева чытае, ой Божа мой!.. Выказваю вам, вушацкаму хітруну, цалкам смаргонскі недавер…» І тады ж прачытаў верш, які напісаўся ў турме і які быў у дарчым надпісу на кнізе паэм:

*Дзень і ноч мой дружа Грыша*
*Вершы піша, піша, піша.*
*Я нічога не пішу.*
*Я сяджу ў турэмнай цішы*
*І, сумуючы без Грышы,*
*Шлю яму сваю душу.*

### 2012

**5 кастрычніка.** Глеб Лабадзенка ўсё ж пераканаў Барадуліна і Валянціну Міхайлаўну хоць увосень паехаць адпачыць у Вушачу, і вось цяпер мы разам з Глебам паехалі за імі, каб прывезці ў Мінск. Пражылі яны ў Вушачах паўтара месяца. Увесь гэты час дзядзька Рыгор практычна не выходзіў з дому, жыў на другім паверсе. Валянціна Міхайлаўна казала, што так напакутавалася за гэты час, як у Мінску не пакутавала, бо дзядзьку Рыгору пастаянна патрэбная дапамога. Вось і цяпер доўга і марудна сядаў у машыну. Галава ясная, а цела ледзь слухаецца…



**Апошняе фота з жонкай Валянцінай Міхайлаўнай, 30 верасня 2013 г.** Фота аўтара



**З Уладзімірам Някляевым, 24 лютага 2014 г.** Фота аўтара

Усю дарогу Барадулін практычна нічога не гаварыў, на аповеды ж Глеба рэагаваў неяк нязвыкла — ці смехам, ці кароткімі фразамі… Калі прыехалі ў Мінск, з велізарнай цяжкасцю нават не выйшаў — выкараскаўся з машыны і доўга пасля адпачываў на лавачцы. Потым мы ўдваіх з Глебам дапамаглі дайсці да ліфта і затым праводзілі да кабінета, дзе дзядзька Рыгор ледзь здолеў прысесці на сваю канапку…

Гэта быў апошні раз, калі ён наведаў родныя Вушачы.

**29 снежня.** Патэлефанаваў Лабадзенка: паводле настойлівых просьбаў Алы Сакалоўскай дзядзька Рыгор, які нікуды даўно не выходзіў, учора паехаў у Чырвоны касцёл дзеля таго, каб падпісаць кнігі, і калі выходзіў, паслізнуўся, упаў і зламаў левае плячо, але пра пералом стала вядома толькі сёння, калі з'явілася вялікая гематома, і Валянціна Міхайлаўна выклікала «хуткую дапамогу».

**31 снежня.** Паехаў да Барадуліна ў 6-ю бальніцу. У палаце ўжо былі Уладзімір Някляеў і Алесь Квіткевіч, які спрычыніўся да выдання рамана «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без». (Пазней падышлі Валянціна Міхайлаўна і Язэп Янушкевіч; тады ж Валянціна Міхайлаўна распавяла, што спачатку Барадуліна паклалі ў палату, дзе разам з ім было яшчэ шэсць чалавек, але пасля перавялі ў асобную — вядома, за грошы (аплачвае касцёл — 40 тысяч штодзённа, гэта 5 даляраў). Уладзімір Пракопавіч сядзеў на ложку і падпісваў свой раман «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без». Дзядзька Рыгор быў бадзёры і вясёлы, і пакуль Някляеў падпісваў, гаварыў як заведзёны ў адрас Някляева: «Геній, геній, геній…»

Калі ўжо развітваліся, Барадулін, ажыўлена размахваючы здаровай правай рукой, нечакана запеў: «Сто год! Сто год!..», і гэтыя яго «Сто год» адразу падхапілі Някляеў з Янушкевічам і Квіткевічам… Шкада толькі, што не знайсці адпаведных слоў, каб перадаць тую цеплыню, з якой развітваліся Някляеў і Барадулін, калі, абняўшыся, доўга моўчкі стаялі…

### 2013

**9 красавіка.** Патэлефанаваў Барадуліну. Дзядзька Рыгор: «Я толькі збіраўся вам званіць». — «А што здарылася?» — «Дый я проста так».

Прабыў у Барадуліна каля трох гадзін. Найперш ён даў блакноцік з вершамі, каб я падрыхтаваў нізку вершаў для «Літаратурнай Беларусі», дадатку да «Новага часу». Пасля ўспомніў, што недзе ў яго былі вершы з цыкла «Цыганскі лёс». Доўга іх шукаў, але не знайшоў, таму вырашылі дачакацца Наталлю Давыдзенку, якая неўзабаве павінна была прыйсці (разам з ёй Барадулін апошнім часам разбірае свой архіў і многія матэрыялы перадае ў Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва). Чакаючы Наталлю Аляксееўну, папрасіў напісаць колькі слоў падтрымкі Зміцеру Дашкевічу, лідару «Маладога фронту», які дасюль сядзіць у турме, — Барадулін напісаў на велікоднай паштоўцы:

«Нязломны Зьміцер!
Трымайцеся!
Беларусь таксама любіць Вас!
І ганарыцца!
дзядзька Рыгор
9 красавіка 2013».

Калі прыйшла Наталля Давыдзенка, гаварылі пераважна пра «Вушацкі словазбор», які яна падрыхтавала і пра які з захапленнем цяпер распавядала. Слухаючы яе, Барадулін часам смяяўся, часам з цікаўнасцю глядзеў на мяне, чакаючы маёй рэакцыі на тыя ці іншыя прыклады з кнігі, пра якія апавядала Наталля Аляксееўна. (Поўнае выданне «Вушацкага словазбору» было даўняй марай Барадуліна і адной з задач, як ён сам не раз казаў, яго жыцця. Але давесці гэтую справу да лагічнага фіналу (гэта значыць, сістэматызаваць, апрацаваць і перадрукаваць запісы, якія рабіў на працягу ледзь не ўсяго свайго жыцця) дзядзька Рыгор фізічна ўжо не мог, і добра, што гэтую неймаверна складаную і велізарную працу зрабіла цяпер Наталля Аляксееўна.)

### 2014

**24 лютага.** Разам з Някляевым ездзілі віншаваць Барадуліна з 79-годдзем. Дзядзька Рыгор пачуваўся не лепшым чынам — і выглядаў не надта добра, і гаварыў гэтаксама (нават практычна не гаварыў, а, здавалася, быў засяроджаны ў сваіх думках), дый настрой быў адпаведны, нягледзячы нават на тое, што ў гасцях быў Някляеў. Зрэшты, і Уладзімір Пракопавіч не паводзіў сябе так, як звычайна. Мусіць, на яго настрой паўплываў выгляд сябра — некалькі дзён таму ён пагаліўся і пастрыгся «пад нуль» і таму адразу неяк састарэў, у дадатак глядзеў на нас, падавалася, адсутным позіркам. Ён нібыта знаходзіўся на мяжы гэтага і ўжо таго свету… Настрой Някляева яшчэ больш пагоршаў, калі ён у адказ на просьбу Барадуліна дапамог яму падзвінуцца ў крэсле да стала, пасля ад стала… Калі потым выйшлі на вуліцу, я запытаўся: «Відаць, цяжка было бачыць Барадуліна ў такім становішчы? Вы ж з маладосці яго ведаеце…» Някляеў у адказ: «Невыносна. Не дай Бог дажыць да такога стану. Лепей у палёце над Майданам».

…Ужо калі сабраліся сыходзіць, папрасіў дзядзьку Рыгора казаць колькі слоў тым, хто яго павіншаваў. Барадулін, сказаўшы «магу», гаварыў: «Я хачу сказаць шчыры дзякуй усім тым, хто ўзгадаў, што ў мяне дзень нараджэння, хто пажадаў мне добрага настрою. І ў сваю чаргу я ім жадаю і настрою, і поспехаў. Хай будзе больш людзей, якія паспачуваюць, якія не злыя, а ласкавыя. Хай будзе ўсё добра».

Гэта былі, мусіць, апошнія яго словы, сказаныя для друку.

Ігар МЕЛЬНІКАЎ





Палац у Новым Полі



Ракаў, могілкі

# Друцкія-Любецкія

## Жыццё і смерць на мяжы цывілізацый

**Дзяржаўная мяжа, якая прайшла па Беларусі 18 сакавіка 1921 года, падзяліла лёсы мільёнаў людзей. Некаторым з іх яна прынесла не толькі пакуты, але і смерць. Напрыклад, 20-гадовай Крысціне Друцкай-Любецкай.**

### Крысціна

Больш за 100 тысяч квадратных кіламетраў зямлі і 4 мільёны жыхароў Беларусі апынуліся пасля Рыжскай мірнай дамовы ў складзе Другой Рэчы Паспалітай. Дзяржаўная мяжа паміж дзвюма краінамі падзяліла і маёнтак Друцкіх-Любецкіх, які знаходзіўся пад Мінскам. Новае Поле засталося за бальшавікамі, а Стары Ракаў — за палякамі. У 1920 годзе, перад самым прыходам частак Чырвонай Арміі, жонка Ераніма Друцкага-Любецкага разам з дачкой Крысцінай пераехалі за лінію фронту. Большасць іх маёмасці засталося на савецкім баку. Жанчыны жылі ў невялічкім доме ў Ракаве.

Мяжа знаходзілася побач, і княжна Крысціна любіла выязджаць вярхом на тыя мясціны, дзе прайшло яе дзяцінства і дзе зараз праходзіў кардон. Падчас адной з такіх прагулак ля вёскі Целяшэвічы ў маі 1921 года дзяўчыну заўважылі савецкія памежнікі. Яе схапілі, згвалцілі, забілі, а пазней кінулі цела ахвяры на польскі бок. Ёй было толькі 20 гадоў.

Улады Другой Рэчы Паспалітай спрабавалі расследаваць гэтае злачынства. Пра яго пісалі ў цэнтральных польскіх газетах. Бальшавікі, каб супакоіць суседзяў, расстралялі вінаватых, і на гэтым скандал сціх. Маладую Крысціну пахавалі ў крыпце на каталіцкіх могілках у Ракаве. Магіла захавалася да нашых дзён.

Забітая горам маці няшчаснай, княжна Марыя Гёцэндорф-Грабоўская хутка звар'яцела. Да самай смерці ў лістападзе 1946 годзе яна пражыла ў Ракаве.

### Ад Рурыка



Палкоўнік Канстанцін Друцкі-Любецкі



Гаспадар маёнтку ў Новым Полі Еранім Друцкі-Любецкі

Княжацкі род Друцкіх-Любецкіх вёў свой радавод ад князя Рурыка. Але мы спынімся на апошніх яго прадстаўніках. Князь Еранім Друцкі-Любецкі нарадзіўся ў кастрычніку 1861 года ў Пінску. Скончыў нямецкую гімназію ў Рызе, а пазней вучыўся на юрыдычным факультэце Пецярбургскага ўніверсітэта. Пасля вучобы служыў у 3-й гвардзейскай артылерыйскай брыгадзе. Пасля выхаду ў запас вярнуўся ў маёнтак свайго бацькі ў Новым Полі ля Мінска і актыўна заняўся гаспадарчай дзейнасцю. У гэты ж час ён працаваў мінскім карэспандэнтам пецярбургскага часопіса «Край». У вольны час ствараў тэатральныя п'есы.

У 1896 годзе князь стаў сябрам Рады Мінскага сельскагаспадарчага таварыства, а праз некаторы час віцэ-дырэктарам гандлёвага аддзела гэтай арганізацыі. У 1900 годзе — сябрам назіральнай рады Таварыства ўзаемнага страхавання. У 1901–1905 і 1911–1914 гадах — старшынёй Аддзела па справах сельскай гаспадаркі і патрэб Палескага таварыства сельскай гаспадаркі. Вялікую ўвагу землеўласнік надаваў неабходнасці павышэння ўзроўню сельскагаспадарчай культуры і адукацыі сярод беларускіх сялян. Увесь час князь Еранім збіраў неабходную тэарэтычную інфармацыю для правядзення сельскагаспадарчых рэформ у Паўночна-Заходнім краі Расійскай імперыі.

Гэтую працу заўважылі і накіравалі Друцкага-Любецкага ў адмысловы камітэт пры Міністэрстве сельскай гаспадаркі і дзяржаўнай маёмасці. У сакавіку 1905 года князь Еранім увайшоў у склад дэлегацыі, што везла ў Пецярбург петыцыю Мінскага сельскагаспадарчага таварыства, у якой падкрэслівалася неабходнасць увядзення ўсеагульнай асветы на родных мовах для жыхароў беларускіх губерняў.

У 1906 годзе князь быў абраны дэпутатам Першай Дзяржаўнай думы ад Мінскай губерні. На пленарных пасяджэннях ён тройчы выказваўся аб неабходнасці правядзення шырокіх рэформ у сферы сельскай гаспадаркі. У 1909 годзе Друцкі-Любецкі атрымаў мандат у Дзяржаўны савет. У 1914 годзе стаў ганаровым суддзёй Мінскага павета. Перад пачаткам Першай сусветнай вайны ён паспеў набыць маёнтак Бірштаны. Пазней князь заняўся развіццём розных польскіх арганізацый Міншчыны. У красавіку 1917 года стаў стваральнікам польскай Школьнай арганізацыі ў Мінску.

Перад захопам Мінска бальшавікамі ён выехаў у Варшаву, дзе захварэў «гішпанкай» і памёр 31 снежня 1919 года. Уладара маёнткаў на Міншчыне (Стары Ракаў і Новае Поле) і Піншчыне (Лунін) пахавалі на цэнтральных варшаўскіх могілках у Павонзках.

У Ераніма Друцкага-Любецкага і яго жонкі княжны Марыі Гёцэндорф-Грабоўскай было чацвёра дзяцей: Марыя (1890–1945), Юзаф (1897–1943), Канстанцін (1893–1940) і Крысціна (1900–1921). Пра Марыю і Юзафа амаль нічога не вядома. А лёс Канстанціна і Крысціны скончыўся трагічна. Як мы ўжо ведаем, княжна Крысціна была згвалтаваная і забітая на савецкім баку. А яе брат...

### Канстанцін

Канстанцін Марыя Юзаф Друцкі-Любецкі нарадзіўся ў сакавіку 1893 года на Піншчыне ў маёнтку Парахоньск. У 1914 годзе ён скончыў Царска-Сельскі ліцэй, пасля якога паступіў на службу ў Рускае імператарскае войска. Служыў у 12-м гусарскім палку, удзельнічаў у баявых дзеяннях на франтах Вялікай вайны. У 1917 годзе, калі рускае войска пачало распадацца, князь перайшоў на службу ў польскі эскадрон пад камандаваннем ротмістра Канстанціна Плісоўскага (будучага героя абароны Брэсцкай крэпасці ў верасні 1939 года) у Адэсе. А вясной 1918 года залічыўся ў 3-ці ўланскі полк Першага польскага корпуса ў Бабруйску.

Падчас польска-бальшавіцкай вайны князь Канстанцін камандаваў польскімі часткамі Віленскай самаабароны, а пазней разам са сваім эскадронам нёс службу на дэмаркацыйнай лініі з савецкай Расіяй пад Мінскам. За геразім, праяўлены ў баях з бальшавікамі, Друцкі-Любецкі быў узнагароджаны Крыжам «Віртуці Мілітары» V ступені.

У міжваеннае дваццацігоддзе Канстанцін выкладаў у Цэнтры падрыхтоўкі кавалерыі ў Грудзёндзу, быў намеснікам камандзіра 13-га ўланскага палка, камандзірам 2-га палка швалежэраў, начальнікам кафедры тактыкі ў Вышэйшай вайсковай школе, намеснікам камандзіра Віленскай кавалерыйскай брыгады і, нарэшце, у жніўні 1939 года, камандзірам гэтай вайсковай адзінкі. Дачка князя Тэрэза Дангель узгадвала, што на месца новай дыслакацыі брыгады палкоўнік Друцкі-Любецкі выехаў 28 ці 29 жніўня, за некалькі дзён да пачатку вайны. «Зялёны мундзір, афіцэрскія боты, пас, рагатыўка. Бацька пацалаваў нас і сказаў, каб мы не перажывалі», — узгадвае жанчына.

Падчас Вераснёўскай кампаніі 1939 года злучэнне пад яго камандаваннем увайшло ў склад паўночнай групоўкі арміі «Прусы» і ўдзельнічала ў кровапралітных баявых дзеяннях супраць нацыстаў у раёне Мацеёвіц і Гарваліна. Падчас адыходу ў бок мяжы з Румыніяй 26 верасня 1939 года палкоўнік быў цяжка паранены і ў раёне вёскі Лешчэсна трапіў у савецкі палон. Палоннага князя ўтрымлівалі спачатку ў турме ў Самборы, а пазней у лагеры для польскіх палонных вайскоўцаў у Старабельску. У канцы 1939 года афіцэру ўдалося даслаць дадому ліст, у якім ён пісаў, што знаходзіцца ў СССР. «Дзіўна складваецца жыццё. Мы змагаліся з нацыстамі, а трапілі ў бальшавіцкі палон», — пісаў тады палкоўнік Друцкі-Любецкі.

Жонка і дзеці афіцэра, якія ўвесь час знаходзіліся ў Вільні, хутка трапілі ў поле зроку НКУС. Савецкія спецыяльныя органы ўнеслі Друцкіх-Любецкіх у спіс на дэпартацыю ў Сібір, аднак у апошні момант тыя здолелі збегчы ў Генеральнае Губернатарства.

Вясной 1940 года былога камандзіра Віленскай кавалерыйскай брыгады разам з тысячамі іншых польскіх грамадзян расстралялі ў Быкоўні пад Кіевам. Прозвішча Канстанціна Друцкага-Любецкага знаходзіцца ў так званым Украінскім катынскім спісе.

Пасля вайны родных палкоўніка наведаў польскі афіцэр, які ў 1939 годзе таксама быў у савецкім палоне ў самборскай турме і сядзеў з Друцкім-Любецкім у адной камеры. Ён і расказаў, як увесну 1940 года палкоўніка Войска Польскага вывезлі ў распараджэнне кіеўскага НКУС.

«Бацькі не было ў спісе польскіх афіцэраў, расстраляных у Катыні, і мы спадзяваліся на лепшае, аднак з кожным годам пасля вайны гэтая надзея знікала. Нарэшце ў 1994 годзе ўкраінцы перадалі Польшчы спіс ахвяр НКУС, у якім было і прозвішча палкоўніка Канстанціна Друцкага-Любецкага», — расказала дачка вайскоўца. Ужо ў 1964 годзе Канстанціну Друцкаму-Любецкаму было прысвоена званне брыгаднага генерала. Пасмяротна.



Сяргей ЧЫГРЫН

# Чарговы «Беларускі гістарычны зборнік»

**Беларускае гістарычнае таварыства, якое існуе ў Польшчы і якім кіруе вядомы гісторык Алег Латышонак, выпусціла ў Беластоку 42-ю кнігу «Беларускага гістарычнага зборніка».**

Зборнік адкрываецца артыкулам гісторыка з Гродна Наталлі Сліж «Тэстамент берасцейскага бурмістра Станіслава Баброўскага, 1639 г.». Як мы ведаем, тэстаменты мяшчан заўсёды з'яўляліся крыніцай не толькі жыцця канкрэтнай асобы, але саслоўя і горада. У параўнанні з дакументамі бедных мяшчан, дакументы эліты змяшчаюць значна больш інфармацыі. У гэтым плане тэстамент берасцейскага бурмістра Станіслава Баброўскага ўтрымлівае каштоўныя факты як з гісторыі гарадскіх ураднікаў, так і з гісторыі Берасця. Пра гэта і распавядае гісторык Наталля Сліж.

Дзмітрый Матвейчык з Мінска выступае з цікавым даследаваннем «Успаміны Вандаліна Чэрніка як крыніца па гісторыі паўстання 1863–1864 гадоў у Беларусі: спроба крытычнага аналізу». Яны друкаваліся асобным выданнем у Вільні ў 1914 годзе пад назвай «Успаміны ветэрана 1864 года». Выданне мае прадмову Вандаліна Чэрніка, у якой ён сцвярджае, што падае ва ўспамінах толькі «чыстую праўду, як ад чалавека, які хутка павінен стаць перад судом Бога». Але недахопаў ва «Успамінах...» Чэрніка шмат. Як сцвярджае гісторык Дзмітрый Матвейчык, нягледзячы на шматлікія недахопы ўспамінаў Чэрніка, некаторыя факты паказваюць, што ігнараваць гэтую цікавую і карысную крыніцу падчас даследавання паўстання ў Беларусі немагчыма, бо шмат якія большыя і меншыя падзеі, паводзіны і дзеянні шмат якіх асоб згаданы і апісаны толькі ў ёй. Падабенства ж пададзеных ацэнак і агульных апісанняў з іншымі крыніцамі, створанымі незалежна ад Чэрніка, прымушаюць даваць ім пэўны давер, а значыць, і выкарыстоўваць у навуковых працах.

Вялікі артыкул Міколы Шалтысэка «Формы сям'і і яе апякунскіх функцый у Рэчы паспалітай абодвух народаў: разыходжанні і падабенствы» ставіць сабе за мэту паказаць прасторавую дыферэнцыраванасць форм сям'і на польскіх, літоўскіх і ўкраінскіх землях пад канец існавання Рэчы Паспалітай.

Латышскі гісторык Ёрыкс Ёкабсонс і польскі гісторык Ежы Грыбоўскі апісваюць латышскі «след» у дзейнасці беларускіх атаманаў Вячаслава Адамовіча (Дзяргача) і Вячаслава Разумовіча (Хмары). Гэта былі вельмі неадназначныя асобы ў гісторыі беларускага нацыянальнага руху 1918–1921 гадоў. У біяграфіі абодвух атаманаў шмат «белых» плямаў. Несумненна, адной з іх трэба палічыць спробу наладзіць супрацоўніцтва з латышскім бокам, якая мела месца на тэрыторыі Вольнага Горада Гданьска. Дакументы латышскіх дыпламатычных службаў праліваюць новае святло на дзейнасць атаманаў Дзяргача і Хмары.




Прафесар Яўген Мірановіч з Беластока змясціў цікавы артыкул пра ўкраінцаў, расіян і габрэяў у Беларусі ў перыяд нямецкай акупацыі ў гады Другой сусветнай вайны. Аўтар паведамляе, што ў выніку далучэння Палесся да Рэйхкамісарыята «Украіна», пачалася ўкраінізацыя нацыянальнага жыцця гэтай правінцыі. Другой праявай украінскай прысутнасці на беларускіх землях былі батальёны дапаможнай паліцыі, якія дапамагалі немцам у пацыфікацыі вёсак, фізічным знішчэнні насельніцтва і ліквідацыі гетаў. Украінскія шуцманы здабывалі ў Беларусі вопыт, які пазней выкарысталі ў атрадах УПА. У Беларусі дзейнічалі таксама расійскія нацыянальныя арганізацыі, якія звязвалі свае палітычныя планы з перамогай Нямеччыны і аднаўленнем Расіі без бальшавікоў. Трактавалі яны Беларусь як частку Расіі. Пранямецкія расійскія ваенныя часці змагаліся ў Беларусі з савецкім падполлем. Так, як ва ўсіх акупацыйных немцамі краінах, у выніку запланаванага генацыду, найбольшыя страты пацярпела габрэйскае насельніцтва. Пра ўсё гэта разважае Яўген Мірановіч.

Гісторык Антон Мірановіч — вядомы беларускі і польскі даследчык з Беласточчыны, знаёміць чытачоў зборніка з дзейнасцю а. Міхала Бажар'янава на тэрыторыі Ірана і Усходняй Афрыкі ў 1941–1945 гадах. Справа ў тым, што сярод польскіх цывільных грамадзян, эвакуіраваных разам з Арміяй Андэрса з СССР у 1942 годзе ў Іран, было больш за дзве тысячы беларусаў праваслаўнага веравызнання. У Іране ў 1942 годзе быў заснаваны Беларускі камітэт, які ўзначальваў айцец Міхал Бажар'янаў. Камітэт выдаў некалькі мемарандумаў і зваротаў да польскага і амерыканскага ўрадаў, у якіх асуджаў далучэнне паўночна-ўсходніх ваяводстваў II Паспалітай да СССР. У 1943 годзе большасць беларускіх бежанцаў пераехала ва Усходнюю Афрыку. Пра адносіны каталікоў і праваслаўных, дзейнасць Беларускага камітэта пад кіраўніцтвам а. Міхала Бажар'янава і расказвае гісторык Антон Мірановіч.

Мінская даследчыца беларускай эміграцыі Наталля Гардзіенка распавядае пра беларуска-літоўскія дачыненні на эміграцыі пасля Другой сусветнай вайны (другая палова 1940-х — 1950-я гады), якая сёння амаль не даследавана. Даследчыца сцвярджае, што да канца 1950-х гадоў у колах беларускай і літоўскай эміграцыі канчаткова афармілася стаўленне перспектыў узаемадачыненняў, замацавалася ўяўленне пра немагчымасць дасягнуць нейкай згоды. А на старонках перыёдыкі пастаянна ўзнікалі спрэчкі пра спадчыну ВКЛ.

Гісторык Валянцін Голубеў разважае пра гісторыю канстытуцыйнага будаўніцтва ў Беларусі канца XX — пачатку XXI стагоддзяў. А Антон Лявіцкі — пра Тураўскае княства ў беларускім гістарычным наратыве паміж 1980 і 2000 гадамі.

Генадзь Семянчук у архіве Інстытута гісторыі матэрыяльнай культуры Расійскай Акадэміі Навук у Санкт-Пецярбургу знайшоў дакументы з асабістых спраў Дубінскага, якія звязаныя з кароткім перыядам жыцця і працы Сяргея Дубінскага ў тагачасным Ленінградзе з 16 красавіка 1934 года па 20 жніўня 1937 года. Найбольш каштоўнай з усіх дакументаў з'яўляецца ўласнаручная аўтабіяграфія Сяргея Дубінскага, напісаная 7 снежня 1935 года. Яе і публікуе гісторык з усімі ўласнымі каментарыямі.

У «Беларускім гістарычным зборніку», які выдаецца два разы на год, аматар гісторыі знойдзе яшчэ шмат цікавых артыкулаў.

# Сумная кніжка

Аляксандр ТАМКОВІЧ

**Нягледзячы на даволі добрую паліграфічную якасць, наўрад ці хтосьці з чытачоў пажадае ўбачыць сябе на старонках гэтай кнігі.**

Не думаю, што гэта моцна пакрыўдзіць аўтара, Аляксея Шалахоўскага, бо, як і ўсе, ён вельмі добра ўсё разумее.

Кніга называецца «Кальварыя. Гісторыя і сучаснасць». Упэўнены, пасля гэтых словаў шмат што адразу становіцца абсалютна зразумелым.

Як зразумела і тое, што пра падобныя рэчы пісаць трэба абавязкова. І не толькі дзеля таго, каб зладзіць завочную экскурсію па знакамітых могілках. Выбачайце за прапісную ісціну, але сапраўды: якая памяць пра тых, хто сышоў, такая і будучыня ў тых, хто сёння чытае кнігі...




# Вазьміце шчасце ў дом!

Гэтых цудоўных шчанюкоў (хлопчыка і дзяўчынку) 9 сакавіка падкінулі аднаму добраму чалавеку, які і так апякуецца двума дзясяткамі сабакаў. Яны такія забаўныя і вясёлыя, што наўрад ці знойдзецца сэрца, якое яны не здолеюць расчуліць.



Паглядзіце на гэтых малянят, магчыма, хтосьці захоча падарыць ім дом і сваю пяшчоту. Калі так, тэлефануйце: +375 29 648 00 20 (Васіль Іванавіч).

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 372

Падпісана да друку 20. 03.2015. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.